50р






МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МЕДЫЦЫНСКІ ІНСТЫТУТ

КАФЕДРА ПАЛІТАЛОГІІ

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК
# – ДАВЕДНІК ПА ПАЛІТАЛОГІІ

МІНСК, 1993

# АНАТАЦЫЯ

На "Тэрміналагічны слоўнік-даведнік па паліталогіі"
Мінск, 1993 год, 53 старонкі

У тэрміналагічным слоўніку-даведніку утрымліваецца і аналізуецца 137 найбольш сустракаючыхся у паліталогіі тэрмінаў. Тэрміны даюцца паслядоўна па 18 тэмах сённяшнега курса паліталогіі. Пры гэтым найбольш складаныя з тэрмінаў падрабязна раскрываюцца і аналізуюцца. Раскрыццё тэрмінаў, асноўных паняццяў паліталогіі даецца на ўзроўні агульна чалавечых каштоўнасцей, пры гэтым шырока выкарыстоўваецца практыка Рэспублікі Беларусь па фарміраванню яе нацыянальнай дзяржаўнасці і нацыянальнай самасвядомасці, інстытутаў улады і кіравання, ажыццяўлення ўнутранай і знешняй палітыкі.

Тэрміналагічны слоўнік-даведнік спрафіляваны для студэнтаў-медыкаў, утрымлівае і аналізуе тэрміны, звязаныя з палітыкай аховы здароўя, экалогіі, органаў улады і кіравання у медыцыне.

Слоўнік-даведнік па паліталогіі падрыхтавалі: дацэнты: Смальцар І.Н., Бабер М.А., Ваткoвіч Г.Б., Лукіна Л.В., Саўко Н.П., выкладчык Карнацкая В.І., выкладчык Баранава Т.І.



ТЭМА I Прадмет і задачы курса паліталогіі.
## Значэнне паліталогіі для працоўнікоў аховы здароўя

- Паліталогія - ад грэчаскага - politie (дзяржаўныя, грамадскія справы) і logos -(вучэнне) - навука і вучэнне аб палітыцы, механізмах улады і кіравання ў грамадстве. Як самастойная дысцыпліна выкладваецца на Захадзе ва універсітэтах і каледжах з 1948 года па рэкамендацыі ЮНЭСКА. У Рэспубліцы Беларусь паліталогія пачала выкладацца і вывучацца студэнтамі з 1990 года.
- Паліталогія побач з вывучэннем рэальнай палітыкі, палітычных структур і механізмаў займаецца таксама вывучэннем розных вучэнняў аб палітыцы, палітычнымі тэорыямі, палітычнай свядомасці і яе ўзроўнямі: палітычнай культурай, палітычнай ідэалогіяй, палітычнай псіхалогіяй, канфліктологіяй і г.д.
- Палітыка - складаная грамадская з'ява, навука і мастацтва кіраваць дзяржавай - дзейнасцю грамадскіх класаў, партый, груп, нацый, вызначаемай іх інтарэсамі і мэтамі, а таксама майстэрства кіраваць дзейнасцю органаў дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання. Выдзяляюць унутраную і знешнюю палітыку. Унутраная палітыка выражае адносіны унутры дзяржавы, знешняя палітыка - адносіны паміж дзяржавай і іншымі дзяржавамі і народамі. Ядром палітыкі з'яўляецца праблема заваёвы, утрымання і выкарыстання дзяржаўнай улады.

- Прадмет паліталогіі - палітыка, палітычная ўлада, палітычныя сістэмы, палітычныя адносіны і механізмы кіравання ў грамадстве. Непасрэдна яны раскрываюцца праз катэгорыі - асноўныя паняцці данай навукі. Найважнейшымі катэгорыямі паліталогіі з'яўляюцца: палітыка, палітычная ўлада, палітычная сістэма, дзяржава, палітычны рэжым, палітычная свядомасць, палітычная культура, палітычная ідэалогія, палітычная псіхалогія і г.д.

- Структура паліталогіі ўключае: тэорыю палітыкі, тэорыю палітычных сістэм і іх элементаў, тэорыю міжнародных адносін, тэорыю кіравання рознымі палітычнымі працэсамі і з'явамі, гісторыю палітычных і прававых вучэнняў.



- Задачы паліталогіі - даць студэнтам, моладзі сучасныя веды аб палітыцы, цэльнае ўяўленне аб змесце, формах і механізмах выканання палітыкі і ўлады ў грамадстве, раскрыць прыроду і характар гэтых з'яў, іх праяўленне ў розных палітычных сістэмах і рэжымах улады.

Важная задача - вывучэнне дзяржавы, як асноўнага інстытута палітычнай сістэмы, палітычных партый і партыйных сістэм, грамадскіх арганізацый і рухаў, стварэння грамадзянскага грамадства і праваавой дзяржавы; вывучэнне не ідэала, а рэальнай палітыкі, развіцця і выкарыстання ў гэтай справе палітычнай свядомасці, палітычнай культуры, палітычнай псіхалогіі, палітычнай ідэалогіі.

Сур'ёзнай задачай курса з'яўляецца вывучэнне праблем палітычнага выкарыстання улады і кіравання грамадскімі адносінамі ва ўсіх сферах грамадства: эканоміцы, экалогіі, дэмаграфіі, нацыянальнай сферы, культуры, сацыяльным жыцці, ахове здароўя, міжнародных адносінах і г.д.

Курс паліталогіі прызваны аналізаваць і выяўляць матывы, формы і спосабы ўдзелу грамадзян, студэнтаў у рашэннях па палітычных пытаннях, высняць іх адносіны да іх.

Важнай задачай курса паліталогіі ў медыцынскім вузе з'яўляецца яго максімальна магчымая прафілізацыя, цесная сувязь разглядаемых пытанняў з арганізацыяй улады і кіравання ў сферы аховы здароўя, палітыкі дзяржавы ў абароне справы аховы здароўя, экалогіі, развіцця медыцыны.

Нарэшце, ва ўмовах суверэннай незалежнай Рэспубліцы Беларусь, яе шырокага міжнароднага прызнання і самастойнага развіцця важная задача курса паліталогіі - шырокае выкарыстанне беларускіх матэрыялаў, іх разгляд пры вывучэнні паліталагічных праблем.

- Метады паліталогіі - дыялектычны, сацыялагічны, камунікацыйны,параўнальны сістэмны.

- Значэнне паліталогіі для працаўнікоў аховы здароўя:
I) дае медыкам неабходныя веды па пытаннях палітыкі, механізмаў улады, іх функцый кіравання і ажыццяўлення ў грамадстве;

2) узбройвае медыкаў ведамі і навыкамі дзяржаўнага кіравання ў сферы медыцыны, аховы здароўя насельніцтва, правядзення дзейснай і эфектыўнай палітыкі;

3) расшырае палітычны кругагляд і гуманітарную падрыхтоўку медыкаў, спрыяе фарміраванню грамадзянскіх якасцей асобы.

ТЭМА II Асноўныя этапы станаўлення і развіцця палітычнай думкі. Палітычная думка ў Беларусі

ІМЁНЫ Ў ПАЛІТАЛОГІІ

Платон, Арыстоцель (V,- IV ст. да н.э.) упершыню тэарэтычна абгрунтавалі палітыку як з'яву, выдзялілі класіфікацыю дзяржавы (манархія, арыстакратыя, палітыя, дэмакратыя). Найлепшай формай праўлення Арыстоцель лічыў палітыю, свабодную ад крайнасцей арыстакратычнага, тыранічнага і дэмакратычнага ладу. Яна можа паспяхова функцыяніраваць, калі абапіраецца на сярэднія слаі, гэта значыць на сярэднезаможных вольных людзей.

Канфуцый (Кун-цзы) (каля 551 - 479 г. да н. э., Кітай) - заснавальнік вучэння канфуцыянства, адлюстроўваючага інтарэсы спадчыннай арыстакратыі і зацвярджаючага непахіснасць сацыяльных парадкаў. Абгрунтоўваў раздзяленне людзей на ніжэйшых і вышэйшых як усеагульны закон справядлівасці. Улада правіцеля тлумачылася як свяшчэнная, якая падаравана небам. Сутнасць кіравання краінай у набліжэнні народа да прадстаўнікоў улады. Сама ўлада, па Канфуцыю, павінна забяспечываць бяспеку народа, яго матэрыяльны дабрабыт, падтрымку з боку народа.

Макіявелі (1469 - 1527, Італія) распрацаваў канцэпцыю свецкай дзяржавы. Пры гэтым Макіявелі лічыў, што палітыку не трэба марыць аб тым, якой павінна быць ідэальная дзяржава, а патрэбна аналізаваць тое, што ёсць у рэчаіснасці. У сваёй працы "Гасудар" Макіявелі даказаў, што толькі моцная ўлада можа стварыць незалежную дзяржаву. Ён абгрунтаваў тэзіс аб тым, што для дасягнення высакароднай палітычнай мэты прыдатныя любыя, у тым ліку і амаральныя сродкі: подкуп, забойствы, падман, вераломства, клятвапарушэнне, здрадніцтва і г.д. У аснове палітычнай дзейнасці людзей ляжыць эгаістычнае імкненне да матэрыяльнай выгады і самазахавання. Уладар павінен умела карыстацца гэтым.

Погляды Макіявелі атрымалі шырокае распаўсюджанне сярод правіцеляў рознага часу. Пазней для абазначэння такой палітыкі з'явіўся нават тэрмін "макіявелізм", які абазначаў палітыку, што зняважае законы маралі, не разбіраецца ў сродках дасягнення палітычных мэт.

Т.Гобс (1588 - 1679, Англія) сваю палітычную дактрыну выклаў у працы "Левіафан". Т.Гобс зыходзіць з таго, што ўсе людзі створаны роўнымі і кожны з іх мае аднолькавае з іншымі "права на ўсё".

Аднак чалавек - істота эгаістычная і славалюбівая, таму у грамадстве пануе "вайна ўсіх супраць усіх". Па-збаўленне ад яе прыходзіць тады, калі людзі, якімі рухае інстынкт самазахавання, адмаўляюцца ад часткі сваіх праваў, перадаючы іх па дагавору вызначаным асобам або групе асоб, апошнія і ўяўляюць сабой дзяржаву, якая кладзе канец "прыроднаму стану" і з'яўляецца гарантам міру паміж людзьмі.

Выхопліваючы тэзісы аб моцнай уладзе і эгаістычнай прыродзе чалавека з кантэксту яго вучэння, ідэолагі таталітарызму імкнуцца выкарыстаць аўтарытэт мысліцеля дзеля апраўдання тэрарыстычных рэжымаў.

Дж.Лок (1632 - 1704, Англія) - заснавальнік сацыяльна-палітычнай дактрыны лібералізма. Сацыяльна-палітычнае развіццё разглядаў ад звычайнага стану да грамадзянскага грамадства і самакіравання. На думку Лока аб'ём паўнамоцтва дзяржавы адмераны грамадствам дакладна: яна атрымлівае роўна столькі улады, колькі неабходна для абароны і забеспячэння грамадзянскіх інтарэсаў, права кожнага на жыццё, здароўе і уласнасць. Асаблівую каштоўнасць уяўляе сабой ідэя Дж.Лока аб падзеле улады у дзяржаве паміж рознымі органамі для таго, каб не дапусціць дэспатычнага выкарастання і злоўжывання ёю.

Шарль Мантэск'е (1688 - 1775 , Францыя) аналізаваў чалавечае развіццё як аб'ектыўную рэальнасць, разглядаў мір у якасці першага звычайнага права чалавека. Лічыў, што законы вызначаюцца тыпам дзяржавы. Да першай ён ставіўся рэзка адмоўна, двум апошнім сімпатызаваў. Распрацаваў прынцыпы раздзялення улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. У гэтым выпадку злоўжыванне уладаю, па Мантэск'е, немагчыма. Заснавальнік "геаграфічнага напрамку" у паліталогіі.

Ж.Ж.Русо (1712 - 1778, Францыя) распрацаваў канцэпцыю "грамадскага дагавору". Разумеючы, што вярнуцца да прыроднага стану ужо немагчыма, Русо прапанаваў заключыць сапраўдны грамадскі дагавор, які адпавядаў бы волі народа. Па гэтаму дагавору кожная асоба адмаўляецца ад усіх сваіх праваў і перадае іх на карысць цэлага грамадства. У гэтым грамадстве пануе народаўладзе і сацыяльная справядлівасць. Русо быў прыхільнікам сістэмы пастаяннага плебісцыту (усенароднага апытання) Прама ён ніколі не заклікаў да звяржэння існуючага ладу. Але у яго ідэях сучаснікі і паслядоўнікі бачылі прызыў да паўстання супраць абсалютызму.

І.Кант (1724 - 1804, Германія) абгрунтаваў лібералізм - ідэйную платформу класа буржуазіі. Галоўным прынцыпам яго палітычнай тэорыі было налажэнне аб тым, што кожны чалавек валодае абсалютнай каштоўнасцю і не можа быць сродкам ажыццяўлення якіх-небудзь мэт. Чалавек - сама мэта і ніколі не павінен стаць сродкам. Прызначэнне дзяржавы Кант бачыць не у клопатах аб вытворчасці, патрэбнасцях і г.д., а у захаванні права. Гэта ідэя дала падставы лічыць Канта адным з асноўных стваральнікаў сучаснай канцэпцыі "прававой дзяржавы".

Да класікаў нямецкай філасофіі належыць І.Георг Вільгельм Фрыдрых Гегель (1770 - 1831). Асноўнай часткай яго філасофскай сістэмы з'яўляецца палітычная дактрына, выкладзенная ім у "Філасофіі права". Важныя і цікавыя для нас сёння ідэі Гегеля аб грамадстве і дзяржаве. Грамадзяне - гэта супольнасць канкрэтных людзей з іх разнастайнымі інтарэсамі і запатрабаваннямі, якія уступаюць у спантанныя адносіны паміж сабою. Грамадства можна параўнаць з мазаікай, якая складаецца з мноства асобных частак. У супрацьлегласць гэтаму, дзяржава - гэта маналіт, адзіная улада, якая павінна абапірацца на згуртаваны народ. Непазбежна ўзнікае пытанне: як аб'яднаць грамадства і дзяржаву? Зрабіць гэта можна, на думку Гегеля, праз групавое прадстаўніцтва. Гэта азначае, што у грамадстве людзі аб'ядноўваюцца у групы згодна са сваімі інтарэсамі і вылучаюць сваіх прадстаўнікоў. Апошнім трэба узгадніць інтарэсы паміж сабой. Гэта дазволіць дасягнуць напынанальнага адзінства, так неабходнага дзяржаве. Вырашэнне супярэчнасцей паміж грамадствам і дзяржавай Гегель бачыў у канстытуцыйнай саслоўнай манархіі.

Заходнікі, прадстаунікі адной з плыняу рускай грамадскай думкі 40-50-х гадоу XIX ст., што выступалі за ліквідацыю прыгонніцтва і у адрозненне ад славянафілау, за развіццё Расіі заходне-еурапейскім, гэта значыць капіталістычным шляхам.

Тэрмін "заходнікі" умоуны і не строга навуковы. Да заходнікау належылі літаратары і вучоныя: П.Я. Чаадаеу, І.С. Тургенеу, В.П. Боткін, П.В. Аненкау, Ц.М. Граноускі, К.Дз. Кавелін, С.М. Салауёу, М.Н. Каткоу. Да заходнікау далучыліся пісьменнікі і публіцысты: М.А. Някрасау, В.М. Майкоу, У.У. Панаеу, М.Я. Салтыкоу-Шчадрын. Разам з заходнікамі у ідэйных спрэчках з славянафіламі выступалі прадстаунікі рэвалюцыйнай дэмакратыі А.І. Герцан, М.П. Агароу, В.Р. Бялінскі. Заходнікі асуджалі паліцэйска-бюракратычны рэжым, прыгонніцкі лад, вялі барацьбу супраць рэакцыйнай "тэорыі афіцыйнай народнасці", развілі ідэі асветы, імкнуліся да еурапеізацыі Расіі, устанаулення буржуазна-парламенцкага ладу. У другой палове 40-х гадоу у асяроддзі заходнікау пачаліся разнагалоссі, якія у 50-я-пачатку 60-х гадоу прывялі да канчатковага размежавання рэвалюцыйна-дэмакратычнага і ліберальнага кірункау. Заходнікі-лібералы адстойвалі буржуазна-памешчыцкі лібералізм, баяліся народнай рэвалюцыі, хацелі устанаулення канстытуцыйнай манархіі, развіццё краіны бачылі у асвеце і культурніцтве.

Славянафілы - прадстаунікі кансерватыунага палітычнага і ідэалістычнага філасофскага кірунку рускай грамадска-палітычнай думкі сярэдзіны XIX ст. У працілегласць заходнікам абгрунтоувалі неабходнасць развіцця Расіі самабытным у параунанні з заходнееурапейскім шляхам. Заснавальнікі славянафільства У.В. Кірэеускі і А.С. Хамякоу, да іх далучыліся К.С. Аксакау, Ю.Ф. Самарын, П.В. Кірэеускі, блізкія да славянафілау пісьменнікі У.У. Даль, У.С. Аксакау, Ф.У. Цютчау, М.М. Языкау.

У цэнтры светапогляду славянафілау - канцэпцыя выключнасці рускай гісторыі, якая нібыта вызначалася адсутнасцю класавай барацьбы, супольным бытам, праваслауем. Гэтыя ж асаблівасці яны пераносілі на славян, галоуным чынам паудньёвых. Славянафілы адмоуна ставіліся да рэвалюцыі, ідэалізавалі манархію. Пасля рэвалюцыі 1861 года тэндэнцыі гэтага кірунку далі пачатак панславізму.

Манархія / грэч. monarchia - адзінауладдзе/ - форма праулення, пры якой вышэйшая дзяржауная улада сканцантравана (цалкам альбо часткова) у руках асабістага уладара дзяржавы - наследнага манарха. У рабауладальніцкіх і феадальных дзяржавах манархія з'яулялася як неабмежаваная дэспатыя, ці тыранія - рэжымы, якія абапіраюцца на грубую сілу, на жорсткае насілле.



Дэспатызм (дэспатыя) (ад грэч. despotia ) - неабмежаваная улада, сістэма дзяржаунага ладу, неабмежаваная манархія, якая характэрызуецца поуным самавольствам улады, бяспрауем падданых. Класічная дэспатыя характэрна для дзяржау Старажытнага Усходу (Асірыя, Вавілон і інш.)

Дэспат - неабмежаваны і жорсткі уладар, тыран.

Дэмакратыя - (грэч. ад demos - народ, cratie - улада)- форма палітычнага ладу, заснаванага на прызнанні прынцыпау народауладдзя, свабоды і роунасці грамадзян. Дэмакратыя вызначае прынцып падпарадкавання меньшасці большасці, выбарнасць асноуных органау дзяржаунай улады, захаванне правоу і свабод грамадзян. Існуе прамая дэмакратыя (непасрэднае волевыяуленне народа-выбары, рэферэндумы і т.п.) і прадстаунічая - праз падкантрольныя грамадству органы улады і удзел у іх народных прадстаунікоу.

Палітыя - (грэч. pulitie ) - тое, што адносіцца да дзяржавы - прауленне многіх. Адна з найбольш правільных, па Арыстоцелю, форм дзяржаунага ладу. Няправільныя формы - тыранія, алігархія, дэмакратыя. Дэмакратыя трапляе у шэраг няправільных форм таму, што у ёй, на думку Арыстоцеля, ёсць небяспечнасць тыраніі большасці над меньшасцю. Найлепшай формай праулення Арыстоцель лічыу палітыю, свабодную ад крайнасцей арыстакратычнага, тыранічнага і дэмакратычнага ладу. Яна можа паспяхова функцыяніраваць, калі абапіраецца на сярэднія слаі, гэта значыць на сярэднезаможных свабодных людзей.

Алігархія (грэч. aligarchia) - нямногі, нешматлікі і улада - улада нямногіх, адна з форм дзяржаунага праулення, пры якой уся пауната дзяржаунай улады належыць невялікай групоуцы багацееу. Алігархія буйных рабауладальнікау у старажытных грэчаскіх гарадах-дзяржавах, алігархія прыгоннікау у перыяд феадалізму.

Арыстакратыя (грэч. aristacratia лепшы і улада) - вышэйшы слой пануючых класау, маючых прывілеі, родавая альбо багатая знаць у рабауладальніцкім, феадальным, а таксама у капіталістычным грамадстве. У сучасным грамадстве - прывілеваная вярхушка якога-небудзя класа ці сацыяльнай групы.

## ДЗЕЯЧЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ ДУМКІ БЕЛАРУСІ

Францыск Скарына (I490-I54I г.г.) буйнейшы гуманіст эпохі Адрадження і першадрукар на Беларусі. Нарадзіўся ў Полацку ў сям'і гандляра. У I506 годзе арымаў у Кракаўскім універсітэце дыплом бакалаўра. У I5I2 годзе Скарына становіцца доктарам філасофіі і ў тым жа годзе Падуанскі універсітэт прысвойвае яму - першаму з усходніх славян - вучоную ступень доктара медыцыны. У I5I7 годзе Скарына пасяліўся ў Празе і пачаў актыўную выдавецкую дзейнасць, дзе пераклаў на беларускую мову і выдаў на працягу трох гадоў 23 кнігі Біблії. Побач з англійскім, чэшскім і нямецкім перакладамі гэта быў адзін з першых перакладаў Бебліі на нацыянальную мову.

У сваіх прадмовах, пасляслоўях і каментарыях да перакладаемых на беларускую мову рэлігійный кнігах ён сфармуляваў свае гуманістычныя погляды, імкнучыся даказаць, што чалавек ёсць вышэйшая каштоўнасць і гэтым самым абвясціў права чалавека на зямелныя радасці, заклікаў яго да дасканальнасці, да актыўнай дзейнасці на карысць народа і грамадства.

Палітычныя погляды Скарыны былі накіраваны на сцвярджэнне ў народзе правасазнання, а ў дзяржаве - правасуддзя, справядлівасці. "ТО не рабі другім, чаго сам не жадаеш". У цэнтры палітычных поглядаў - манархія на чале з асвечаным манархам. Ідэал - правіцель, які заахвочвае навуку, культуру, мастацтва.

На думку Скарыны, правіцель павінен ажыццяўляць уладу ў строгай адпаведнасці з законамі.

Скарына выказваўся за тое, каб законнасць і правапарадак сталі нормай грамадства. Палітычныя ідэі Скарыны зрабілі уплыў на Статут Вялікага княства Літоўскага (I529 г.), у распрацоўцы якога ён прыняў актыўны ўдзел. Як адзін з лепшых прадстаўнікоў гуманізму эпохі Адраджэння Скарына - прыхільнік ідэі вечнага міру паміж народамі.

СЫМОН БУДНЫ (I530-I593 г.г.) - кнігавыдаўца, гісторык, філолаг, перакладчык, віднейшы прадстаўнік філасофскай і грамадскай думкі Беларусі другой паловы XУІ стагоддзя, ідэі якога былі добра вядомы ў краінах заходняй Еўропы. Будны выдаў "Катэхізіс", у якім крытыкаваў неадукаванасць правіцеляў.

Выступаў супраць амаралізму, п'янства, казнакрадства. Крытыкаваў абсалютызм. З'яўляўся прыхільнікам абмежаванай саслоўным прадстаўніцтвам манархіі. Ён дзяліў войны на справядлівыя і несправядлівыя. Справядлівыя - супроць захопнікаў у абарону Айчыны.



КАЗІМІР ЛЫШЧЫНСКІ (I634-I689 г.г.) брэсцкі суддзя, адзін з барацьбітоў супраць засілля польскіх феадалаў і каталіцкай царквы. Яго палітычны ідэал - моцная дзяржава на чале з адукаваным манархам. Асветніцтва ў гэтай дзяржаве павінна дапамагчы выкараніць сацыяльныя беды. У трактаце "Аб неіснаванні бога "беларускі мысліцель прызнаваў адзінай рэальнасцю матэрыяльную прыроду і адмаўляў існаванне бога. Падобна да Джардана Бруна, Лышчынскі за свой ерэтызм і атэізм быў спалены на кастры.

СІМЯОН ПОЛАЦКІ (сапраўднае Пятроўскі-Сітняковіч Самуіл Емельянавіч) - беларускі грамадскі і царкоўны дзеяч, педагог, пісьменнік і публіцыст (I629-I680). Вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. З I656 у Полацку пад імем Сімяон пастрыгся ў манахі і выкладаў у праваслаўнай брацкай школе пры Богаяўленскім манастыры. У I664 годзе пераехаў у Маскву, выхоўваў царскіх дзяцей.

Арганізаваў друкарню, надрукаваў некалькі сваіх кніг - "Буквар", "Часасловец".

Сабор у I690 годзе асудзіў і забараніў яго творы як ерэтычныя. Рэзка асуджаў манархаў-тыранаў. На яго думку начале дзяржавы павінен стаяць разумны "Асветны манарх", які ў сваёй дзейнасці кіруецца прынцыпамі розуму і справядлівасці. Сцвярджаў, што усё зло ў грамадстве ад неадукаванасці і невуцтва, што пашырэнне асветы выратуе грамадства ад усіх заган і усталюе поўную гармонію і мір. У зборніках "Ветраград шматкаляровы" і "Рыфмалагіён" выказаў свае грамадскія і палітычныя погляды, прапанаваў праграму прагрэсіўнай дзейнасці цара, прыдворных дзеячоў, быў ініцыятарам заснавання адной з першых агульнаадукацыйных вышэйшых навучальных устаноў у Расіі - Славяна-Грэка-лацінскай акадэміі.

КАЛІНОЎСКІ КАСТУСЬ (Канстанцін Вікенці Сямёнавіч) - беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання I863-I864 г.г. на Беларусі і ў Літве. К. Каліноўскі нарадзіўся 2.02.I838 г. у вёсцы Мастаўляны Гродзенскага Павету. Скончыў Свіслацкае вучылішча, у I860 Пецярбургскі універсітэт. У пачатку I86I года вярнуўся ў Беларусь. Разам з В. Урублеўскім у Гродне стварыў з розначыннай інтэлігенцыі нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю. Выдаваў на беларускай мове рэвалюцыйна-дэмакратычную газету "Мужыцкая праўда".

Характэрная рыса светапогляду К. Каліноўскага - нянавісць да прыгонніцтва, барацьбе з якім ён прысвяціў усё сваё жыццё. Рэзка

крытыкаваў рэформу 1861 года, як чарговае ашуканства з боку самаўладдзя і памешчыкаў. Быў палымяным абаронцам свабоды, адукацыі і народнага самакіравання. Сцвярджаў і прапагандаваў ідэі дэмакратычнай рэспублікі, сацыяльнай і нацыянальнай свабоды беларускага народа, яго правы на развіццё нацыянальнай культуры. Зрабіў вялікі ўплыў на далейшае развіццё перадавой грамадскай думкі на Беларусі, беларускай літаратуры. Публіцыстыка К. Каліноўскага – яркая старонка беларускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага друку і літаратуры XIX стагоддзя.

У 1862 г. у камітэце па падрыхтоўцы паўстання, створаным у Вільні, К. Каліноўскі ўзначаліў рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло. Рэвалюцыйныя дэмакраты на чале з К. Каліноўскім патрабавалі знішчыць самаўладдзе, ліквідаваць памешчыцкае землеўладанне, надзяліць сялян зямлёй, устанавіць народна-дэмакратычны дзяржаўны лад. Царызм падавіў паўстанне. 22.У.1864 года К. Каліноўскі быў пакараны смерцю.



ТЭМА 3 УЛАДА ЯК САЦЫЯЛЬНА-ПАЛІТЫЧНАЯ З'ЯВА. ПАЛІТЫЧНАЯ ЎЛАДА Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ.

– Улада – гэта цэнтральнае паняцце палітычнай навукі і практыкі; здольнасць і магчымасць здзейсняць сваю волю, аказваць уздзеянне на людзей пры дапамозе аўтарытэту, права, насілля. Улада як асобны від грамадскіх зносін з'яўляецца адлюстраваннем аб'ектыўнага патрабавання любой сацыяльнай супольнасці ў самарэгуляванні і арганізацыі.

– Класіфікацыя ўлады: па сферы функцыяніравання; па суб'ектах; па метадах здзейснення; па формах праўлення; па аб'ёму; па рэжыму праўлення.

Палітычная ўлада – сіла волі класа, групы, узведзенная ў Закон.

– Гэта рэальная здольнасць і магчымасць класа, групы, асобы здзейсняць сваю волю ў палітыцы і прававых нормах. Дзяржаўная ўлада – гэта палітычная ўлада, якая рэалізуецца пры дапамозе дзяржаўнага апарата, уключаючага заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы.

– Суб'екты палітыкі (сацыяльныя кампаненты ўлады) – гэта – пануючы клас, сацыяльныя слаі і групы, кіруючыя органы масавых грамадскіх рухаў і палітычных інстытутаў; "кіруючая эліта", розныя групы парцікулярных інтарэсаў, якія непасрэдна здзяйсняюць палітычную ўладу ў дзяржаве.

– Панаванне – гэта механізм здзяйснення ўлады, які прымае форму сацыяльных інстытутаў і мае намер раздзелу сацыяльных груп на пануючыя і залежныя, іерархію і сацыяльную дыстанцыю паміж імі, вылучэнне і адасабленне асобнага апарата кіравання. В.Вебер распазнае: традыцыйнае панаванне: зарызматычнае – вера ў асобыя якасці каго-небудзь; легетымнае, заснаванае на панаванні законнасці, праве. Апошняе звязана с раздзелам улад, выдзяленнем і існаваннем асобнага адміністратыўнага апарата кіравання.

У сучаснай паліталогіі (Р. Міхельс, Б. Моска) выдзяляецца тэндэнцыя да харызматычнага панавання, заснаванага на веры ў выключныя якасці палітычнага лідэра.

- Бюракратызм (ад лац. бюро - стол і кратыя - улада) - спецыфічная форма кіруючых структур і адносін; сістэма кіравання, ажыццяўляемая пры дапамозе атчужанага ад народа і стаячага над ім апарата.

- Легітымнасць - ( ад лат. legitimus - законны ) - згоднасць, правамернасць - адпаведнасць сацыяльнага парадку законам дзяржавы). Гэты тэрмін уведзены М. Веберам.

- Палітычная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь.

I) Заканадаўчую ўладу прадстаўляе аднапалатны Вярхоўны Савет (ВС).

Узначальвае ВС старшыня, у ВС працуюць 23 пастаянныя Камісіі (бюджэтная, аграрная, па навуцы, па прамысловасці, па народнай адукацыі, ахове здароўя, па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС і інш.). Старшыні камісій уваходзяць у склад Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Апазіцыя ў ВС уключае прадстаўнікоў БНФ - звыш 30 чалавек). Закона, гарантуючага правы парламенцкай апазіцыі, пакуль няма.

За час работы сучаснага ВС прыняты наступныя законы: Дэкларацыя аб суверэнітэце РБ; законы: аб мове, аб пенсіях, прыватызацыі жылля, аб зямлі, аб моладзі і інш. У маі 1992 г. была створана Кантрольная палата пры ВС.

2) Выканаўчая ўлада ў РБ прадстаўлена Саветам Міністраў, урадам. Узначальвае ўрад старшыня, міністры ўрада зацверджаюцца ВС.

3) Судовая ўлада ў РБ прадстаўлена Вярхоўным судом і судамі розных узроўняў (абласныя, гарадскія, раённыя). Канстытуцыйны суд пакуль не ўтвораны. Дзейнічае Пракуратура РБ, якая назірае за правільнасцю выканання законаў.

У РБ фарміруецца тып парламенцкай дэмакратыі. Але не выключаюцца і прэзідэнцкія формы кіравання.



## ТЭМА 4. ПАЛІТЫЧНАЕ ЛІДЭРСТВА І ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАВОДЗІНЫ

Палітычнае лідэрства (ад анг. lidэr - вядучы, кіраўнік) - важнейшы элемент грамадска-палітычнага жыцця, адзін з механізмаў рэгулявання адносін людзей, сацыяльных груп, палітычных інстытутаў, грамадства наогул.

Палітычны лідэр - асоба, якая ацэньвае палітычную сітуацыю, выпрацоўвае лінію сумесных дзеянняў, аб'ядноўвае і мабілізуе людзей на вырашэнне складаных палітычных і грамадскіх праблем.

- Прыкметы палітычнага лідэрства:

I) наяўнасць уласнай палітычнай праграмы;

2) здольнасць застацца лідэрам пасля страты сваёй службовай пасады (дэ Голь, Дэн Сяопін, Б. Ельцын пасля зняшчэння з пасады сакратара МГК КПСС);

3) папулярнасць;

4) уменне арганізаваць рэалізацыю сваёй палітычнай праграмы.

- Тыпалогія лідэрства: (па М. Вэберу):

I) Традыцыйнае лідэрства - заснавана на святасці традыцый, пераемнасці ўлады (напрыклад, старэйшы сын манарха пасля яго смерці сам "па закону" становіцца манархам).

2) Бюракратычнае лідэрства - заснавана на веры ў законнасць існуючага парадка і яго "разумнасць". Лідэр - чыноўнік, прызначаецца і выступае як агент пэўнай дзяржаўнай функцыі.

3) Харызматычнае лідэрства (харызма - charisma - вера) - пэўная якасць асобы, якая вылучае яго з асяроддзя звычайных людзей, заснавана на веры ў звышпрыродныя здольнасці правадыра (С.Шушкевіч, Б.Ельцын, Л.Валенса, В.Гавел, практычна ўсе лідэры нацыянальных рухаў).

- Класіфікацыя лідэрства:

I) па зместу (лідэр-натхніцель;
лідэр-выканаўца;
лідэр і натхніцель і выканаўца).

2) па стылю ( - аўтарытарны;
- дэмакратычны;
- неўмешальніцкі).

3) па характару (па роду) дзейнасці ( - універсальны,
- сітуатыйны).

IУ. Па напрауленасці (лідэр-рэвалюцыянер;
лідэр-рэфарматар;
лідэр-кансерватар).

Асноуныя парамеметры партрэта палітычнага лідэра і яго паводзін

- асноуныя этапы біяграфіі лідэра, яго адукацыя, палітычны вопыт;
- характарыстыка груп прыхільнікау і адносіны да іх лідэра;
- адносіны да апазіцыі;
- стыль лідэрства;
- спосаб прыняцця рашэнняу;
- індывідуальныя псіхалагічныя якасці лідэра;
- кантэкст лідэрства, (гэта значыць) сукупасць сацыяльных умоу.

Асноуныя функцыі і задачы палітычнага лідэрства:

- падтрымка стабільнасці грамадства;
- нацэленасць на навауввядзенне і правядзенне рэформ;
- паніжэнне узроуню канфліктнасці у грамадстве;
- інтэграцыя асобных палітычных сіл і дасягненне кансэнсысу;
- палітычнае планаванне і прагназаванне.

Механізмы вылучэння лідэрау:

- пошукі новага харызматычнага лідэра;
- прызначэнне пераемніка першапачатковым харызматычным лідарам;
- назначэнне пераемніка адміністрацыйным апаратам;
- перадача улады па спадчыне;
- вылучэнне лідэрау праз парламецкія і партыйныя механізмы;
- вылучэнне лідэра палітычным рэжымам улады;
- вылучэнне лідэра на аснове нацыянальнай ідэі;
- вылучэнне лідэра з дапамогай каманды аднадумцау;
- навучэнне лідэра з дапамогай ВПК і кіруючых эліт .



тэма 5

## ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭЖЫМЫ. ПАЛІТЫКА І МЕДЫЦЫНА

Рэжым - (ад фран. régime ) - кіраванне.

Палітычны рэжым - гэта сістэма метадау і спосабау ажыццяулення правячым класам свайго эканамічнага і палітычнага панавання. Гэта сукупнасць прыёмау і метадау ажыццяулення дзяржаунай улады, якая адлюстроувае адносіны органау улады з прававымі асновамі іх дзейнасці.

Тыпы рэжымау: таталітарны, аутарытарны, ліберальны, дэмакратычны, анарха-дэмакратычны і іншыя.

Таталітарны рэжым (ад лац. totalis - увесь, цэлы, поуны), або таталітарызм - гэта дзяржауна-палітычны лад грамадства, які азначае поуны кантроль з боку дзяржавы над усімі старанамі жыцця грамадства. Яму уласцівы адзяржауленне не толькі грамадскага, але і у значнай ступені прыватнага жыцця, значнае абмежаванне правоу і свабод грамадзян, аддаленне іх ад палітычнай дзейнасці. Прызнанне кіруючай ролі адной партыі, адсутнасць шматпартыйнай сістэмы, прымусовае навязванне афіцыйнай ідэалогіі усім членам грамадства.

Аутарытарны рэжым - (ад лац. auctoritas - улада, уплыу) - гэта дзяржауна-палітычны лад грамадства, аснову якога складае моцная асабістая дыктатура. Аутарытарызм - гэта такая форма кіравання і палітычнага рэжыму таталітарнага тыпу, пры якой працэдура дэмакратычных рашэнняу ці зусім адсутнічае, ці носіць фіктыуны характар. Пры ім улада не фарміруецца і не кантралюецца народам, а знаходзіцца у руках правячай эліты. Парламенту належыць другарадная роля, адбываецца зрастанне правячай партыі з дзяржауным апаратам, адсутнічае раздзяленне улады на заканадаучую, выканаучую і судовую, або раздзяленне гэта носіць умоуны характар. Апазіцыя абмяжоуваецца або забараняецца зусім.

Ліберальны рэжым (ад лац. liberalis свабодны, прыналежны вольнаму, свабоднаму чалавеку) - гэта дзяржауна-палітычны лад грамадства, у якім больш вольна дзейнічаюць процілеглыя партыі, саюзы, грамадска-палітычныя аб'яднанні і рухі. Пры ім забяспечваецца развіццё грамадзянскіх свабод, галоснасць, раздзяленне заканадаучай, выканаучай і судовай улад. Лібералізм абараняе

правы свабоднага прадпрыймальніцтва, перамяшчэння, сходау, веравызначэння людзей, уздзейнічання на справы урада, выбранне афіцыйных асоб. Свабода, па разуменню лібералау - гэта свабода багатых і для багатых.

Дэмакратычны рэжым (ад грэч. demos-народ, kratos - улада, народаулада) - гэта дзяржауна-палітычны лад грамадства, кіруючыя функцыі у якім належаць народу. Ён з'яуляецца носьбітам улады.

Народ мае права удзельнічаць у рашэнні дзяржауных спрау, ён надзелены шырокім кругам грамадзянскіх правоу і свабод. Для яго характэрны роунасць усіх перад законам, абарона асобы ад улады і улады ад самавольства грамадства.

Дзейнічае прынцып раздзялення улады на заканадаучую, выканаучую і судовую, палітычны плюралізм, шматпартыйная сістэма, выбарнасць прадстаунічых органау улады, устанауленне усеагульнага выбарчага права.

Дэмакратычныя рэжымы дзеляцца на прэзідэнцкія і парламенцкія. (ЗША - прэзідэнцкі рэжым, Заходняя Еуропа - у асноуным парламенцкія рэжымы і зрэдку - паупрэзідэнцкія.

Анарха-дэмакратычны рэжым - празмерна скрыулены, дэзарганізуючы эканамічнае, палітычнае і духоунае жыццё грамадства. Рэжым, які вядзе да хаосу, неразбярыхі ва усіх яго сферах. Такі рэжым, як правіла, доуга не можа існаваць, у якасці адзінага практычнага выхаду з яго узнікае аутарытарны.

Палітычны рэжым арганічна уключае у сябе такі істотны паказчык, як узровень і фактычную рэалізацыю правоу і свабод грамадзян. Адсюль рэжымы у больш шырокім сэнсе падзяляюцца на дэмакратычныя і антыдэмакратычныя.

Трэба адзначыць, што рэжымы у чыстым выглядзе сустракаюцца даволі рэдка, хутчэй за усё яны маюць спалучэнне некалькіх з іх, у асноуным сумежных.

Палітыка і медыцына цесна узаемадзейнічаюць паміж сабой. Медыцына выкарыстоуваецца у палітыцы як сродак удзеяння на насельніцтва дзеля дасягнення гуманістычных альбо антыгуманных мэт. Але медыцына не толькі залежыць ад палітыкі, яна можа аказваць на яе пэуны уплыу, асабліва у экстрэмальных умовах для грамадства (у часы вайны, эпідэмій, стыхійных бедствау).



ТЭМА 6

## ПАЛІТЫЧНАЯ СІСТЭМА ГРАМАДСТВА. ДЗЯРЖАВА - АСНОУНЫ ІНСТЫТУТ ПАЛІТЫЧНАЙ СІСТЭМЫ. АРГАНІЗАЦЫЯ УЛАДЫ І КІРАВАННЯ У СІСТЭМЕ АХОВЫ ЗДАРОУЯ.

Палітычная сістэма - гэта комплекс дзяржауных і грамадска-палітычных арганізацый і устаноу, палітычных і прававых нормау, палітычнай культуры, з дапамогай якіх ажыццяуляецца улада, палітычнае кіраванне грамадствам. Яна забяспечвае уладу пэунага класа, рэгуляванне і кіраванне рознымі сферамі грамадскай жыццядзейнасці.

Структура палітычнай сістэмы грамадства:

а) палітычныя інстытуты (дзяржава і яе установы, партыі, грамадска-палітычныя арганізацыі і рухі, аб'яднанні, асацыяцыі).

Б) палітычныя адносіны (адносіны паміж класамі, сацыяльнымі групамі, нацыямі і народнасцямі, паміж палітычнымі інстытутамі, паміж грамадствам, калектывам і асобай, паміж дзяржавай і грамадзянамі наконт улады, яе заваёування, утрымання і функцыяніравання, у сувязі з выпрацоукай і ажыццяуленнем палітыкі;

в) палітычныя і прававыя нормы, правы і свабоды грамадзян, замацаваныя у Канстытуцыі;

г) палітычная свядомасць і палітычная ідэалогія;

д) палітычная і прававая культура грамадства.

Усе гэтыя элементы палітычнай сістэмы узаемадзейнічаюць паміж сабой, цесна звязаны адзін з другім.

Функцыі палітычнай сістэмы:

а) выпрацоука палітычнага курса, вызначэнне мэты і задач грамадства;

б) мабілізацыя рэсурсау для дасягнення гэтых мэт і задач;

в) аб'яднанне усіх элементау, уваходзячых у структуру палітычнай сістэмы;

г) легітымізацыя - пацверджанне законнасці свайго права на кіраванне грамадствам і нарматворчасць.







Тыпы палітычных сістэм грамадства

У вызначэнні тыпаў палітычных сістэм няма адзінства ў палітолагаў свету.

Марксісты зыходзяць з фармацыйнага падыходу, тып сістэмы атаясамліваюць з грамадска-палітычнай і эканамічнай фармацыяй.

Заходнія палітолагі адмоўна адносяцца да фармацыйнага падыходу. Амерыканскія палітолагі да вызначэння палітычнай сістэмы падыходзяць з пазіцый прагматызму, нямецкія - галоўнае бачаць у дзяржаўным укладаванні, яго структуры, французы - палітычную сістэму атаясамліваюць з рэжымамі, галоўным лічаць колькасць партый, іх уплыў, наяўнасць палітычных правоў і свабод, свабодных выбараў.

Галоўнае месца ў палітычнай сістэме належыць палітычным інстытутам і арганізацыям, а сярод іх - дзяржаве.

Дзяржава як асноўны інстытут палітычнай сістэмы. Яе месца ў палітычнай сістэме вызначаецца наступнымі фактарамі:

1. Дзяржава распаўсюджвае свой уплыў на ўсіх грамадзян, знаходзячыхся на яе тэрыторыі, уключаючы і іншаземцаў;

2. Яна кіруе ўсім грамадствам, абараняе яго эканамічную і сацыяльную структуру;

3. Ёй належыць права выдання законаў і правіл, абавязковых для ўсяго насельніцтва;

4. Мае выключнае права на ажыццяўленне унутранай і знешняй палітыкі;

5. Валодае манаполіяй на прымус усяго насельніцтва ў рамках сваёй тэрыторыі.

Структура дзяржавы:

- органы заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады
- праваахоўныя органы, дзяржаўнай бяспекі, узброеныя сілы, сродкі масавай інфармацыі



Тыпы дзяржавы

- рабаўладальніцкі →
  - антычны: рэспубліка, манархія, ваенная дыктатура
  - азіяцкі: дэспатычная манархія
- феадальны: абсалютная або абмежаваная манархія, у выключных выпадках - рэспубліка
- буржуазны: канстытуцыйная манархія, рэспубліка
- сацыялістычны: рэспубліка

Дзяржавы бываюць:

1) унітарныя (ад лац. - адзінства) - адзінае дзяржаўнае утварэнне; яно мае канстытуцыю, адзіны прадстаўнічы орган улады, адзіны урад і г.д. Гэта Рэсбуліка Беларусь, Польша і інш.

2) федэрацыя (ад лац. - аб'яднанне, суполка, саюз) - суполка юрыдычна адносна самастойных дзяржаўных утварэнняў - штатаў, кантонаў, зямель, рэспублік, звычайна існуе ў шматнацыянальных дзяржавах. Федэрацыі могуць ствараццa як па тэрытарыяльна-адміністрацыйнаму (ЗША, Германія), так і па нацыянальна-тэрытарыяльнаму прынцыпах (былы СССР);

3) канфедэрацыя (ад лац. - звязваць дагаворам, аб'ядноўваць). Гэта палітычны саюз суверэнных дзяржаў, маючых незалежнае існаванне і аб'ядноўваючыхся толькі для каардынацыі некаторых сваіх дзеянняў, звычайна знешне-палітычных і ваенных. Адзінай палітычнай, прававой, эканамічнай, падаткавай сістэм у рамках канфедэрацыі няма. Няма і агульнага грамадзянства. Канфедэрацыя як форма аб'яднання дзяржаў сустракаецца адносна рэдка (магчыма СНД).

Прававая дзяржава - гэта прававая форма арганізацыі і дзейнасці публічна-палітычнай улады і яе ўзаемаадносін з індывідамі як суб'ектамі права.

Прынцыпы прававой дзяржавы:

1. Верхавенства закона, адсутнасць анархіі і самавольства.

2. Падпарадкаванасць самой дзяржавы і яе органаў закону. Дзяржава, выдаўшая законы, не мае права іх парушаць, або змяняць адвольна.

3. Непахіснасць, непарушнасць свабоды асобы, яе правоў, інтарэсаў, гонару, вартасці, іх ахова і гарантаванасць.

4. Узаемная адказнасць дзяржавы і асобы, роўнасць усіх перад законам.

5. Арганізацыя і функцыяніраванне дзяржаўнай улады на аснове раздзялення ўлады - заканадаўчай, выканаўчай і судовай.

Функцыі дзяржавы: унутраныя і знешнія.

Унутраныя: абарона існуючага спосабу вытворчасці, эканамічнай і сацыяльна-палітычнай сістэмы; кіраванне эканомікай або рэгуляванне гаспадарчай дзейнасці; ахова грамадскага парадку, падтрыманне дысцыпліны, рэгуляванне сацыяльных адносін; культурна-выхаваўчая, ідэалагічная функцыі.

Знешнія: абарона інтарэсаў дзяржавы ў яе адносінах з іншымі дзяржавамі; забеспячэнне абароны дзяржавы або ваеннай ці палітычнай экспансіі ў адносінах да другіх дзяржаў; развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, мірнага суіснавання з іншымі дзяржавамі.

Арганізацыя ўлады і кіравання ў сістэме аховы здароўя.

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе кіраванне ўсёй сістэмай аховы здароўя ў дзяржаве і ўваходзіць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь ёсць пастаянная камісія па ахове здароўя і сацыяльных пытаннях. Адпаведныя камісіі існуюць пры мясцовых Саветах народных дэпутатаў.



ТЭМА 7

## ПАРТЫІ І ПАРТЫЙНЫЯ СІСТЭМЫ. ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ Ў БЕЛАРУСІ

Партыя (ад parti - частка) - частка грамадства, арганізаваная для выражэння інтарэсаў класа, саслоўя, сацыяльнай групы. Існуе тры падыходы да разумення сутнасці партыі: а) партыя як ідэалагічная супольнасць людзей; б) палітычныя арганізацыі, што адлюстроўвае інтарэсы пэўнага класа і з'яўляецца яго авангардам (марксісцка-ленінская канцэпцыя); в) інстытуцыянальнае разуменне партыі як арганізацыі, дзейнічаючай у сістэме дзяржавы. Зыходзячы з гэтага, можна выказаць наступнае меркаванне. Партыя - гэта добраахвотны саюз, злучаны ідэалагічнай супольнасцю, які імкнецца да валодання ўладай альбо да ўдзелу ў ажыццяўленні ўлады ў дзяржаве.

Тып палітычнай партыі - гэта паняцце, якое ўключае найбольш істотныя рысы пэўнай групы палітычных партый, дзе воссю, вакол якой групуюцца гэтыя партыі, з'яўляецца іх класавая прырода. Тыпалогіі будуюцца таксама па такіх крытэрыях, як паходжанне партыі, яе ўнутраная структура, асаблівасці членства, асаблівасці выконваемых функцый і г.д.

Партыі архаічнага тыпу (амерыканскага тыпу) : адсутнасць дакладнай арганізацыйнай структуры, перыядычнасць дзейнасці (часцей за ўсё ў перыяд выбарчых кампаній), вызначэнне членства па выніках галасавання на выбарах у органы ўлады, існаванне за кошт дабрачыннасці.

Партыі парламенскага (еўрапейскага) тыпу: наяўнасць арганізацыйных структур, арыентацыя на парламенцкую дзейнасць, членства на прынцыпах дэмакрытызма, змешаная сістэма фінансавання дзейнасці, партыі рэформ, дзейнічаючыя без змянення грамадскага ладу.

Партыі авангарднага тыпу (марксісцка-ленінская і інш.): наяўнасць дакладных арганізацыйных структур, уздзеянне на ўсе сферы грамадскіх адносін, уключэнне ў дзяржаўныя структуры, дэмакратычны цэнтралізм як прынцып арганізацыі і функцыяніравання, фінансіраванне дзейнасці на падставе ўзносаў, партыі рэвалюцыйнага дзеяння.

Партыя-клуб, якія аб'ядноўваюць людзей на падставе агульных поглядаў, інтарэсаў, культурных запатрабаванняў і т.п. (клубы інтэлектуалаў, масонскія ложы, міжнародныя партыі і інш.).

Партыйная сістэма - гэта аб'яднанне ўзаемназвязанных паміж сабой партый, якія імкнуцца да атрымання і здзяйснення ўлады. У склад партыйных сістэм уваходзяць тыя партыі, якія прытрымліваюцца ў сваёй дзейнасці агульных правіл барацьбы, узаемадзейнічаюць у рамках дадзенай сістэмы. Дзейнасць партыйнай сістэмы вызначаецца: ступенню палітычнай сталасці сацыяльных груп, суадносінамі класавых сіл, гістарычнымі традыцыямі, формамі і метадамі барацьбы і панавання, нацыянальным складам насельніцтва, рэлігійнымі ўяўленнямі.

Тыпы партыйных сістэм: буржуазна-дэмакратычная; фашысцкая; аўтарытарная, сацыялістычная.

Буржуазна-дэмакратычная сістэма. Нормы буржуазна-дэмакратычнай сістэмы зводзяцца да наступных фактараў: у грамадстве адбываецца пастаянная барацьба за ўладу; сродкам дасягнення ўлады з'яўляюцца ўсеагульныя выбары; уладу ажыццяўляе партыя або партыі, якія забяспечваюць сабе большасць у парламенце, пастаянна ажыццяўляецца легальная апазіцыя правячай партыі; паміж усім партыямі унутры сістэмы дзейнічае згодніцтва на аснове агульных норм.

Фашысцкая партыйная сістэма. У сучасным свеце такіх сістэм не існуе. У чыстым выглядзе мадэль фашысцкай партыйнай сістэмы стварыў гітлераўскі рэжым, які можна адкрэсліць наступнымі рысамі: легальна існуе толькі адна партыя, другія распушчаны; партыя стаіць над дзяржавай, ажыццяўляе ў ёй першаступенна дамініруючую ролю; апарат партыі цесна звязаны з апаратам дзяржавы. Партыйныя кіраўнікі на розных узроўнях выконваюць дзяржаўныя функцыі, пазбаўляючы паўнамоцтваў ранейшы дзяржаўны апарат, дзейнічаючы на іерархічных правадырскіх прынцыпах. Узнікненне такой сістэмы з'яўляецца вынікам крызісу дэмакратычных метадаў, ажыццяўляючых уладу буржуазіяй.

Аўтарытарная партыйная сістэма. Для такой сістэмы характэрныя наступныя рысы: галоўнай дзеючай асобай як у дактрыне, так і ў палітычнай практыцы выступае дзяржава. Правячая партыя - гэта, як правіла, шырокі грамадскі рух, які арганізуе масавую падтрымку палітыкі цэнтральнага кіраўніцтва дзяржавы. Партыя дзейнічае як



бы на "другіх ролях", але прадстаўлена ў кіраўніцтве дзяржавай, непасрэдна не бярэ на сябе, не абвяшчае функцыі праўлення дзяржавай. Неправячыя партыі, якія дзейнічаюць у краіне, маюць абмежаванні. Іх функцыі звычайна абмежаваны законам, які забараняе гэтым партыям выступаць на выбарах са сваёй праграмай. Аўтарытарная сістэма ўкаранілася пасля другой сусветнай вайны ў краінах Усходняй Еўропы і краінах трэцяга свету.

Партыйны уклад - гэта аб'яднанне вядучых партый, якія імкнуцца ўдзельнічаць у ажыццяўленні дзяржаўнай улады.

Уклад шматпартыйнасці азначае, што ні адна з партый парламента не мае магчымасці кіраваць самастойна. Тады утвараецца правячая кааліцыя або непартыйны ўрад, якія не маюць большасці ў парламенце і вымушаны ісці на кампраміс.

Двухпартыйны уклад мае месца, калі дзейнічаюць дзве моцныя партыі і кожная з якіх здольная да ўлады, яе самастойнага ажыццяўлення.

Калі адна з двух партый заваёўвае ўладу, другая пераходзіць у апазіцыю.

Двухпартыйны мадыфікаваны уклад, калі ні адна з двух канкуруючых партый не мае большасці ў парламенце і, каб сфарміраваць урад, павінна ўвайсці ў кааліцыю з трэцяй, нешматлікай, але пастаянна прадстаўленай у парламенце. Такі уклад сфарміраваўся ў 1968 годзе ў ФРГ, дзе ролю рэгулятара адыгрывае Партыя свабодных дэмакратаў.

Уклад дамінацыі ўзнікае, калі адна партыя стаіць на чале ўлады больш чым 25 год. Дамінацыя не патрабуе пастаяннай і абсалютнай большасці ў парламенце. Укладу дамінацыі садзейнічаюць такія фактары, як стабільнасць ідэалагічнага ўплыву буржуазіі, слабае развіццё класавай барацьбы, адсутнасць моцнай і аб'яднанай апазіцыі і г.д. Уклад дамінацыі існуе ў Швецыі, дзе сацыял-дэмакраты больш за 50 гадоў самастойна ажыццяўляюць уладу.

Палітычныя партыі і рухі ў Беларусі - у нашай краіне зарэгістравана і існуе 9 палітычных партый і 8 грамадска-палітычных рухаў розных накірункаў, фарміруецца многапартыйная сістэма. Партыі і рухі зусім маладыя і невялікія. Сярод іх АДПБ, БСДГ, НДПБ, БНФ, ПКБ, БСП, БЗВ, ХДЗ, НПК, ПНЗ, РСПС і інш.

8 ТЭМА

## ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ І ГРАМАДСКІЯ РУХІ І СУПОЛКІ. МЕДЫЦЫНСКІЯ ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ І РУХІ.

Грамадская арганізацыя. Гэта фармальна-прававы інстытут, які ўтвараецца для рэалізацыі разнастайных грамадскіх патрабаванняў і інтарэсаў. У большасці выпадкаў грамадскія арганізацыі характэрызуюцца пастаянным членствам, маючы спецыялізаваны персанал, які выконвае кіруючыя функцыі.

Грамадскі рух – сумеснае імкненне людзей да рэалізацыі агульнай мэты. Яны бываюць непалітычныя і палітычныя.

Грамадскія рухі непалітычнага характару. Гэта тыя з іх, якія не ўдзельнічаюць у барацьбе за ўладу і не ставяць сабе за мэту змяніць або ўмацаваць існуючую сістэму палітычных адносін у дадзеным грамадстве. Да грамадскіх рухаў непалітычнага характару можна аднесці рухі пенсіянераў, хатніх работніц, фемінісцкі на пачатковых этапах яго развіцця і г.д.

Грамадскія рухі палітычнага характара (або палітычныя рухі), гэта тыя, якія імкнуцца змяніць існуючыя ўмовы, або ўмацаваць іх шляхам уплыву на ўрад, або шляхам барацьбы за ўладу.

Тыпалогія грамадскіх рухаў

I. Па сацыяльна-класавай прыкмеце: рухі, што маюць ярка выражаны класавы характар (рабочы, сялянскі, буржуазны; рухі што маюць міжкласавы, а ў некаторых выпадках і пазакласавы характар (нацыянальна-вызваленчы, анціваенны, экалагічны і г.д.); рухі, што выражаюць інтарэсы сацыяльнай праслойкі, выразна адкрэсленай прафесіянальнай групы (інтэлегенцыя, ваенныя, урачы, адвакаты ўтвараюць свае грамадскія рухі).

II. У залежнасці ад іх адносін да існуючага ладу: кансерватыўныя, рэфармісцкія, рэвалюцыйныя, контррэвалюцыйныя.

III. У залежнасці ад ступені і формы арганізацыі: стыхійныя (дзейнічаюць нядоўга), слабаарганізаваныя (масавыя дэмакратычныя). высокаарганізаваныя (палітычныя партыі).

Народныя франты – арганізацыі народных мас і масавых палітычных рухаў па вырашэнню праблем, якія датычаць усяго грамадства і адлюстроўваюць інтарэсы ўсіх альбо большасці яго сацыяльных



груп. Ствараюцца і функцыяніруюць на аснове агульнадэмакратычных прынцыпаў. Не маюць строга акрэсленых форм арганізацыі і членства. Так, у чэрвені 1989 г. у Вільнюсе на ўстаноўчым з'ездзе быў створаны Беларускі народны фронт "Адраджэнне".

Нефармальныя маладзёжныя аб'яднанні ў Беларусі. Гэта ўзнікшыя ў другой палове 80-х гадоў аб'яднанні "Талака", "Світанак", "Тутэйшыя", "Паходня",(Гродна), "Узгор'е" (Віцебск), "Маладзік" (Наваполацк), дыскусійны клуб "Сучаснік", гісторыка-асветніцкае грамадства "Мартыролаг Беларусі", што ставіць сабе за мэту сказаць праўду аб людзях, бязвінна знішчаных у гады сталіншчыны, і інш. Іх дзейнасць першапачаткова насіла ў асноўным культурна-асветніцкі і экалагічны характар. У нашай рэспубліцы "нефармалы" першаступенную ўвагу ўдзялялі адраджэнню роднай мовы, аказвалі дапамогу ў рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, арганізоўвалі паходы з тым, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да пагражаючага экалагічнага стану рэспублікі. Паступова расла палітызацыя нефармальнага руху, па меры ўспрыманняім таго, што радыкальнае паляпшэнне экалагічнай, моўнай, культурнай сітуацыі немагчыма без глыбокай дэмакрытызацыі грамадства, кансалідацыі ўсіх дэмакратычных сіл. У сучасны перыяд некаторыя з названых аб'яднанняў спынілі сваё існаванне або ператварыліся ў партыі.

Медыцынскія грамадскія аб'яднанні і суполкі Рэспублікі Беларусь

Беларускія ўрачы прымаюць удзел у міжнародным руху "Урачы міра за прадухіленне ядзернай вайны (УМПЯВ), якое ўзнікла ў снежні 1980 года ў выніку сустрэчы шасці савецкіх і амерыканскіх вучоных-медыкаў. УМПЯВ – прафесіяльнай арганізацыя, якая ставіць сваёй галоўнай мэтай мабілізацыю грамадскасці на барацьбу супраць пагрозы ядзернай вайны праз распаўсюджванне інфармацыі аб яе магчымых медыцынскіх выніках. У 1985 годзе УМПЯВ была прысуджана Нобелеўская прэмія. У сучасны момант рух налічвае звыш 70 нацыянальных арганізацый, у тым ліку і арганізацыя медыкаў Рэспублікі Беларусь.

Удзельнікі руху ў нашай рэспубліцы выступаюць за забарону выпрабаванняў ядзернай зброі, за знішчэнне цалкам ядзерных узбра-

енняў, супраць пераносу гонкі ўзбраенняў у космас. Беларускія ўдзельнікі руху вылучылі і канкрэтныя прапановы аб перанакіраванасці рэсурсаў з ваенных мэт на мэты аховы здароўя.

Рэспубліка Беларусь уваходзіць у Сусветную арганізацыю аховы здароўя - паміжурадавую спецыялізаваную установу ААН, устаў якой прыняты ў 1946 годзе. Былы СССР удзельнічаў у рабоце гэтай установы з 1948 года.

Пасля набыцця суверэнітэту Рэспубліка Беларусь прымае самастойны ўдзел у сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Сувязі урада рэспублікі з гэтай установай асабліва актывізаваліся ў апошні час у сувязі з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У рамках Сусветнай арганізацыі аховы здароўя Беларусь ажыццяўляе міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне аховы здароўя і медыцынскай навукі, удзельнічае ў зборы статыстычных звестак аб нараджальнасці, смяротнасці, захворваннях і г.д., прымае магчымы ўдзел у барацьбе з эпідэміямі, а таксама ў асобных мерапрыемствах па абароне навакольнага асяроддзя.

У канцы 1990 года ў рэспубліцы утворана добраахвотная грамадская Асацыяцыя барацьбы са СНІДам. Перад ёй стаяць складаныя задачы аб'яднаць высілкі грамадскасці рэспублікі, прыцягнуць творчыя саюзы, культурна-асветныя, спартыўныя і іншыя установы, а таксама асобных грамадзян, працоўныя калектывы, друк, радыё, тэлебачанне, урадавыя органы да правядзення і падтрымкі мерапрыемстваў па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі і захворванняў на СНІД.

"Чырвоны Крыж" ("Чырвоны Паўмесяц" у Афганістане, Пакістане, Турцыі, арабскіх краінах) - дабраахвотнае таварыства традыцыйнага характару, якое існуе на Беларусі як і ў шэрагу іншых краін і дапамагае хворым і параненым у час войнаў, у мірны час - пацярпелым ад стыхійных няшчасцяў, рыхтуе медыка-санітарны персанал, ажыццяўляе мерапрыемствы па папярэджанню хвароб. "Чырвоны Крыж" на Беларусі створаны ў 1921 годзе. У Міжнародную Лігу "ЧК" Беларусі уваходзіў у складзе "ЧК" СССР з 1934 года. У міжнароднай дзейнасці "Чырвоны Крыж" Беларусі ажыццяўляе прынцыпы аховы міру, гуманнасці, недапушчэння ваеннай небяспекі, аказвае дапамогу медыцынскім установам у краінах, якія сталі на шлях незалежнасці і самастойнага развіцця.



Апрача таго, медыкі рэспублікі прымаюць актыўны ўдзел у іншых грамадскіх аб'яднаннях і суполках такіх, як фонд "Дзеці Чарнобыля", "Дзіцячы фонд імя У.І. Леніна і інш.

ТЭМА 9. Палітычная свядомасць і палітычная культура. Духоўна-маральныя каштоўнасці ў дзейнасці доктара.

I. Свядомасць - абагульнёныя веды, якія ў якасці інфармацыі (звестак) аб чым-небудзь з'яўляюцца ведамі толькі ў той ступені, у якой яны могуць служыць сродкамі задавальнення тых ці іншых патрэб чалавека, дасягнення пэўных мэт.

2. Самасвядомасць - гэта асэнсаванне кожным з нас сваіх дзеянняў, пачуццяў, думак, матываў, паводзін, інтарэсаў і грамадскіх сувязяў. Самасвядомасць цесна звязана з асабістай адказнасцю за свае учынкі.

3. Палітычная свядомасць - адна з форм грамадскай свядомасці, сістэма ідэй, поглядаў, прадстаўленняў, норм і пачуццяў, выражаючых адносіны людзей да палітычнай рэчаіснасці і ўзнікаючых у працэсе палітычнай дзейнасці.

4. Тыпы палітычнай свядомасці - гэта формы існавання палітычнай свядомасці. Па сферах функцыяніравання палітычная свядомасць падзяляецца на палітычную псіхалогію і палітычную ідэалогію; па ўзроўнях - на звычайную (абыдзеную) і тэарэтычную палітычную свядомасць; па тыпах - на групавую, масавую, агульначалавечую; па напрамках - на кансерватыўную, рэфармісцкую, рэвалюцыйную, канфармісцкую, багатую і бедную, развітую і неразвітую, дамініруючую і перыферыйную і г.д. свядомасць.

5. Палітычная псіхалогія - гэта сфера палітычнай свядомасці, у якой актыўна высвечваюцца ярка выражаныя сацыяльна-псіхалагічныя рысы суб'ектаў: вастрыня ўспрымання, пачуцці і г.д.

6. Палітычная ідэалогія - гэта сфера палітычнай свядомасці, якая ўяўляе сабой сукупнасць палітычных ідэй, поглядаў, прадстаўленняў, што вызначаецца высокім узроўнем сістэматызацыі, функцыянальнай залежнасцю ад інтарэсаў сацыяльных суполак (партый, нацый, класаў).

7. Звычайная (штодзенная) палітычная свядомасць - сукупнасць ідэй, прадстаўленняў, поглядаў, якія ўзніклі з будзённай практыкі таго альбо іншага класа, групы людзей, індывіда.

8. Імпірычная (звычайная) палітычная свядомасць - сума назіранняў, навыкаў і прадстаўленняў, складаемых на падставе практычнага штодзеннага вопыту палітычнай жыццедзейнасці індывіда і фіксу-



ючых непасрэднае праяўленне палітычнага жыцця. Імпірычная ці звычайная палітычная свядомасць адлюстроўваюцца ярка выражанымі сацыяльна-псіхалагічнымі рысамі - настроем, чуллівасцю, эмоцыямі.

9. Тэарэтычная палітычная свядомасць - сукупнасць позіркаў, ідэй, вучэнняў, створаных на падставе навуковага даследавання палітычных працэсаў і палітычных адносін.

IO. Масавая палітычная свядомасць - сума ідэй, прадстаўленняў, настрояў, пачуццяў, адлюстроўваючых усе бакі жыцця грамадства, якія даступны масам і здольны вызваць іх інтарэс. Масавая палітычная свядомасць заключае ў сабе элементы звычайнай і тэарэтычнай палітычнай свядомасці.

II. Таталітарная палітычная свядомасць - гэта такі тып палітычнай свядомасці, які вызначаецца спрошчаным, чорна-белым успрыманнем акружаючай палітычнай рэчаіснасці, перавагі ў ім розных міфаў, памылковых стэрэатыпаў, абсалютызаваннем вульгарна ўспрынятых класавых інтарэсаў, ярка выражанай прыхільнасцю да правадырства, нецярплівасцю да іншадумства, страхам адказнасці, адсутнасцю самастойнасці.

I2. Аўтарытарная палітычная свядомасць - таксама як і таталітарная вызначаецца спрошчаным успрыманнем палітычнай рэчаіснасці, выражанай прыхільнасцю да моцных асоб, агрэсіўнымі адносінамі да парушальнікаў устаноўленых палітычных парадкаў, верай у культ сілы, адсутнасцю самастойнасці і групавымі метадамі дзейнасці.

I3. Ліберальная палітычная свядомасць - вызначаецца актыўнасцю і крытычным успрыманнем палітычнай рэчаіснасці, страхам асабістай адказнасці, прыхільнасцю да галоснасці, асветніцтва, маралізавання.

I4. Дэмакратычная палітычная свядомасць - вызначаецца шматмерным успрыманнем рэчаіснасці, перавагай агульначалавечых інтарэсаў і каштоўнасцей, устаноўкамі на цывілізаванае, дэмакратычнае вядзенне спрэчак, дыскусій, інстынктам адказнасці, самастойнасці і самазахавання.

I5. Палітычная культура – узровень і характар палітычных ведаў, ацэнак і дзеяннаў грамадзян, арганізацый і устаноў, а таксама змест і якасць сацыяльных каштоўнасцей, традыцый і норм, рэгулюючых палітычныя адносіны.

I6. Структура палітычнай культуры – складаецца з трох элементаў: кагніцыйнага, нарматыўна-ацэначнага і паводзіннага. Кагніцыйны элемент уключае ў сябе палітычныя веды, палітычную адукаванасць; нарматыўна-ацэначны – палітычныя пачуцці, ацэнкі, настрой, традыцыі, звычаі, каштоўнасці, нормы, ідэалы, палітычную перакананасць; паводзіны – тыпы палітычнай актыўнасці, грамадска-палітычнай дзейнасці.

I7. Нормы палітычнай культуры – патрабаванні з дапамогай якіх рэгулюецца дзейнасць палітычных інстытутаў, класаў, грамадзян. Галоўнымі нормамі ПК з'яўляюцца: адносіны да чалавека як вышэйшай каштоўнасці, лаяльнасць, грамадзянская адказнасць перад будучым, павага да улады, свядомая дысцыпліна і г.д.

I8. Прынцыпы палітычнай культуры – асноўныя выходныя палажэнні, якія характарызуюць умовы функцыяніравання палітычнай культуры. Да ППК адносяцца такія прынцыпы як: масавасць, галоснасць, шырокая інфарміраванасць, плюралізм і цярпімасць да іншадумства, самакіраванне і самадысцыпліна, стымуляванне грамадска-палітычнай актыўнасці і г.д.

I9. Функцыі палітычнай культуры – галоўныя мэты, прызначэнне палітычнай культуры. Галоўнымі функцыямі ПК з'яўляюцца – функцыя палітычнага забяспячэння карэнных інтарэсаў і мэт грамадства, нацыі, класаў, грамадзян; нарматыўна-рэгулюючая; мабілізуючая, камунікатыўная, выхаваўчая, прагматычная.

20. Заканамернасці палітычнай культуры – парадак прычынна-следчай сувязі, узаемасувязі палітычнай культуры з другімі сацыяльнымі з'явамі грамадства. Заканамернасцямі ПК выступаюць – цесная сувязь палітычнай культуры з сацыяльным асяроддзем грамадства, яго палітычнымі і ідэалагічнымі плынямі; адзінства і ўзаемасувязь палітычнай культуры з усёй культурай грамадства; гарманічнае развіццё і спалучэнне усіх элементаў палітычнай культуры; дынамічнасць развіцця палітычнай культуры, змена стыля і метадаў палітычнай дзейнасці з развіццём грамадства; гістарычная пераемнасць у развіцці палітычнай культуры.



2I. ПАЛІТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА ГРАМАДСТВА – сінтэз палітычных культур усіх дзеючых у ім нацый, класаў і другіх сацыяльных суполак, грамадзян пры дамініруючай ролі культуры пануючага класа, афіцыйнай культуры. Галоўным паказчыкам палітычнай культуры грамадства служыць сапраўднае палажэнне мас у сістэме грамадства, вытворчасці; узровень іх уключэння ў дэмакратызацыю і галоснасць, грамадска-палітычнае і духоўнае жыццё; ступень свядомасці, цывілізаванасці і сацыяльнай актыўнасці. Ступень свабоды і умоў для усебаковага развіцця людзей вызначаюць сапраўдны змест культурнага прагрэса грамадства.

22. Палітычная культура асобы – гэта сістэма знаёмых, эмацыянальна успрынятых і рэалізаваных у працэсе сацыяльнай дзейнасці індывіда, палітычных, ідэалагічных і сацыяльна-псіхалагічных каштоўнасцей грамадства і спосабаў гэтай дзейнасці.

23. Духоўна-маральныя каштоўнасці ў дзеянні доктара – гэта галоўныя патрабаванні, якімі павінен кіравацца ў сваей працы доктар. Да іх належаць: чалавекалюбства, спачувальнасць, жаданне прыйсці на дапамогу, міласэрднасць, самаадданасць і іншыя.

ТЭМА 10. ПАЛІТЫЧНАЯ ІДЭАЛОГІЯ. АСНОЎНЫЯ НАПРАМКІ СУЧАСНАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ДУМКІ.

- Палітычная ідэалогія - цэльнае, сістэматычнае выражэнне на тэаратычным узроўні карэнных інтарэсаў поўных класаў, нацый, сацыяльных груп, звязаных з барацьбой за ўладу і яе ажыццяўленне, у абарону сваіх інтарэсаў. Яна, як правіла, выступае ў форме розных тэорый, дактрын, норм, мэтаў і спосабаў іх дасягнення ў рэальным палітычным жыцці. Выдзяляюць розныя тыпы ідэалогіі: кансерватызм, лібералізм, сацыял-дэмакратызм, марксізм, рэлігійную ідэалогію. Іншымі словамі: ідэалогія, даючы веды, адначасова выражае пэўныя адносіны к прадмету ведаў. Гэта абумоўлена інтарэсамі тых сіл, з пункту гледжання якіх адлюстроўваецца рэчаіснасць.

Кожная палітычная сіла мае сваіх ідэолагаў, якія прызваны выразіць у тэаратычнай форме стан гэтай сілы ў сістэме існуючых у грамадстве адносін, сфармуляваць яе інтарэсы і мэты. Макіявелі, Гобс, Лок, Мантэск'е, Вальтэр - ідэолагі буржуазіі; Маркс, Энгельс, Ленін, Бухарын - ідэолагі пралетарыята, Аўгусцін Блажэнны, Т.Шардэн - ідэолагі царквы.

Палітычная ідэалогія - гэта не толькі сістэма тэорый, дактрын, сума паняццяў, але і інстытут грамадства, з дапамогай якога яна існуе і функцыяніруе ў масавай свядомасці насельніцтва.

- Масавая палітычная свядомасць - гэта шырокая сукупнасць самых розных духоўных утварэнняў на узроўнях псіхалогіі і ідэалогіі, логікі, абыдзеных і тэарэтычных ведаў, разумных і далёкіх ад навукі з'яў і уяўленняў. З'яўленне яе звязана зростам колькасці людзей, якія прымаюць удзел у палітычным жыцці, неаднародным саставам удзельнікаў, ускладненнем сацыяльных і палітычных адносін у сучасным грамадстве. Непасрэдна масавая свядомасць людзей праяўляецца праз грамадскую думку, якая даследуецца і аналізуецца рознымі службамі і цэнтрамі. На Захадзе вядомы службы Харыса, Гелена, рэйтынгі палітычных дзеячаў, у нас - сацыялагічныя цэнтры, інстытуты, лабараторыі.



- Кансерватызм - (фр. кансерватызм) - адзін з найбольш уплывовых напрамкаў заходняй паліталогіі, які ставіць у цэнтр увагі такія якасці як парадак, дысцыпліна, традыцыя, якія дапамагаюць утрымліваюць і умацоўваюць уладу ў заходніх краінах. Ён абараняе традыцыйныя багацці і ў палітыцы рэформ выбірае тое, што к гэтым традыцыям прыбліжае, абараняючы існуючы на Захадзе лад жыцця. Кансерватызм характэрны не толькі сучаснасці, не толькі Захаду, але і нам. Ён панаваў заўсёды і заўсёды будзе, бо ў жыцці заўсёды існуе новае і старое.

Палітычны кансерватызм сёння вельмі папулярны ў Заходніх краінах. Яго лідэры - Д.Буш, Р.Рэйган, М.Тэтчэр, Г.Коль і інш.

- Лібералізм (ад лац. liberalis - свабодны) - палітычны і ідэалагічны напрамак заходняй паліталогіі, які робіць упор на паняцці "Свабода" і "канкурэнцыя". Як правіла, лібералы выступаюць з больш умераных пазіцый, чым кансерватары, падтрымліваюць сучасныя дэмакратычныя інстытуты ў Заходніх краінах. Лібералізм у цэнтр палітычнага і грамадскага жыцця ставіць чалавека. Ён патрабуе стварыць у палітыцы усе умовы для вызвалення творчага патэнцыялу чалавека, стварыць усім і кожнаму аднолькавые стартавые магчымасці, разняволіць асобу. Гэтай умовай з'яўляюцца, на думку лібералаў, выбарныя інстытуты улады. Яны стаяць за абмежаванне дзяржаўнай, асабліва выканаўча-распарадчай улады. Гэта стрыжань іх палітыкі. Таму яны выступаюць за слабую дзяржаўную уладу і моцную палітыку. Сярод іх лідэраў: Раймон Арон, Клод Лефорт (фр.), Ханна Арэндт (США), Харкхаймер (ФРГ) і інш.

- Сацыял-дэмакратызм (Рэфармізм) - адзін з уплывовых напрамкаў палітычнай думкі ў Заходніх краінах. У цэнтры увагі ён ставіць "плюралізм" (мностваЬ), салідарнасць, рэформы. У адрозненне ад кансерватараў і лібералаў, сацыял-дэмакратызм удзеляе вялікую увагу сацыяльным пытанням: сацыяльным гарантыям палітычнага удзелу у прыняцці рашэнняў, умацаванню дзяржавы, удасканаленню выбарчай працэдуры і г.д. Пытанне аб дзяржаве - адзін з цэнтральных пунктаў канцэпцыі "дэмакратыч-

нага сацыялізму". Ён стаіць за "плюралізм палітычных сіл, здольных удзейнічаць на дзяржаву, направіць урад, дзяржаўныя інстытуты на патрэбу народа, на правядзенне дэмакратычных рэформ, выступае за шырокую салідарнасць, партнёрства. Яго лідэры - Г.І.Фогель (ФРГ), Ф.Мітэран,Моруа (фр.), Дж. Кінок (Англія).

ТЭМА II ПАЛІТЫЧНАЯ ПСІХАЛОГІЯ: САЦЫЯЛЬНЫЯ, БІЯЛАГІЧНЫЯ І ПСІХАЛАГІЧНЫЯ НАКІРУНКІ ПАЛІТЫЧНАЙ САЦЫЯЛІЗАЦЫІ І ПАВОДЗІН АСОБЫ

- Палітычная псіхалогія - адзін з відаў грамадскай псіхалогіі, якая праяўляецца ў індывідуальнай, групавой і масавай палітычнай свядомасці людзей і звязаная з палітычнай дзейнасцю.

Палітычная дзейнасць - гэта любая форма дзеяння індывіда ў сферы палітыкі ад удзелу ў дзейнасці палітычных інстытутаў да асэнсаванай адхіленасці ад палітыкі, адчужанасці.

Формы палітычнай дзейнасці:

1) рэакцыя (пазітыўная альбо негатыўная) на імпульсы, зыходзячыя ад палітычнай сістэмы, яе інстытутаў, органаў улады.

2) удзел у дзеяннях, звязаных з дэлегіраваннем паўнамоцтваў, удзел у выбарах (электаральныя паводзіны).

3) удзел у дзейнасці палітычных арганізацый;

4) выкананне палітычных функцый у рамках інстытутаў, уваходзячых у палітычную сістэму альбо дзеючых супраць яе;

5) прамое дзеянне;

6) актыўная (у тым ліку і кіруючая) дзейнасць у пазаінстытуцыянальных палітычных рухах, накіраваных супраць існуючай палітычнай сістэмы.

- Формы няўдзела (імабільнасці) у палітычнай дзейнасці:

а) выключанасць з палітычных адносін, абумоўленая нізкім узроўнем грамадскага развіцця;

б) палітычная выключанасць як рэзультат заарганізаванасці палітычнай сістэмы, нізкай эфектыўнасці механізмаў адваротнай сувязі паміж сістэмай і грамадскім таварыствам увогуле, расчараванне ў палітычных інстытутах;

в) палітычная апатыя як форма непрыняцця палітычнай сістэмы;

г) палітычны байкот як выражэнне актыўнай варожасці да палітычнай сістэмы і яе інстытутаў.

- <u>Палітычная сацыялізацыя</u> - уключэнне чалавека у палітычнае жыццё, набыццё ім пэунай палітычнай ролі пад уплывам палітычных і непалітычных фактарау.

<u>Фактары, уплываючыя на палітычную сацыялізацыю</u>:

| | |
|---|---|
| біялагічныя - | узрост, пол, тэмперамент, стан здароуя, фізічныя данныя і г.д. |
| псіхалагічныя - | воля, тып мыслення, эмоцыі і г.д. |
| сацыяльныя - | запатрабаванні, інтарэсы, цэннасці, матывы. |



## ТЭМА 12. ГРАМАДЗЯНСКАЕ ГРАМАДСТВА: ПРАБЛЕМЫ СТАНАУЛЕННЯ І РАЗВІЦЦЯ

<u>Грамадзянскае грамадства</u> (грэч. kuincia politike )(лац. – socictus civilis – ) - самастойна развіваючаяся сістэма элементау і каштоунасцей, тая сфера грамадскага жыцця людзей, якая рэальна існуе апрача дзяржавы і яе устаноу, палітычнай улады. Сучаснае грамадзянскае грамадства, сфарміраванае на Захадзе у 50 - 80 гады і фарміруемае у нас сёння, уключае у сябе самадзейныя асацыяцыі, суполкі людзей, кааператывы, прафсаюзы, розныя фонды, малые прадпрыемствы, нефармальныя аб'яднанні моладзі, якія выражаюць і абараняюць інтарэсы розных груп насельніцтва, вырашаюць самастойна і незалежна ад дзяржавы свае справы.

Высокаразвітае грамадзянскае грамадства - аснова і умова стабільнасці палітычнага ладу, магутнасці дзяржавы. І наадварот. Менавіта слабасць савецкага грамадзянскага грамадства, яго неразвітасць дазволілі існаваць таталітарнаму рэжыму і абумовілі яго развал, а заадно і развал саюзнай дзяржавы.

Фармуляванне паняцця і навуковае абгрунтаванне канцэпцыі грамадзянскага грамадства належаць Арыстоцелю, Цыцэрону, Гобсу, Локу, Пэну, Русо, Гегелю, Канту, Марксу, Грамшы.

<u>Шматукладная эканоміка</u> - эканамічная аснова і галоуная прыкмета грамадзянскага грамадства. Яна рэгулюецца рынычнымі адносінамі і характэрызуецца рознымі формамі уласнасці, свабоднай эканамічнай дзейнасцю людзей, шырокім развіцём таварна-грашовых адносін, цесным эканамічным інтэграваннем.

"<u>Сярэдні слой</u>"- сацыяльная аснова і важная прыкмета грамадзянскага грамадства. Ён уключае у сябе навуковых і навукова-тэхнічных працаунікау, менеджэрау, адміністратарау сярэдняга узроуню, інтэлігенцыю, працуючую па найму, гарадскіх і сельскіх, уключаючы фермерау, мелкіх уласнікау, рабочых высокай кваліфікацыі, працаунікоу сферы абслугоування. Аснауныя прыкметы сярэдняга слою-даход, вобраз жыцця, грамадскі прэстыж і інш. У развітых заходніх краінах гэты слой - болей 60% насельніцтва. "Сярэдні" слой у нас састауляе пакуль што нязначную частку насельніцтва, ідзе яго фарміраванне.

Прававая дзяржава - важная прыкмета і аснова грамадзянскага грамадства у прававых адносінах. Прававая дзяржава - такая дзяржава, дзе важнейшым крытэрыем з'яуляецца права, закон. Яна дзейнічае строга на аснове і на карысць выканання законау, дакладна упісываецца у існуючае грамадзянскае грамадства, рэгулюе на дэмакратычнай, прававой аснове складаную гаму узаемных адносін людзей, паважае і абараняе правы і годнасць чалавека.

Палітычная культура кансэнсуса - аснова і прыкмета духоунага жыцця грамадзянскага грамадства. Яна характэрызуецца свабодай асобы, суіснаваннем розных культур, школ, канфесій, ідэй і поглядау, аднагалосным прыняццем рашэнняу.

Усеагульны плюралізм (мноства) - важная прыкмета грамадзянскага грамадства у розных напрамках жыцця: у эканамічным (розныя формы уласнасці), у палітычным (шматпартыйнасць, розныя суполкі і рухі), у ідэалагічным (існаванне розных ідэалогій, палітычных ідэй і поглядау). Яго характэрная асаблівасць у тым, што у развітых краінах ён носіць мірны характар, ажыццяуляецца на аснове парытэта, свабоднай канкурэнцыі і павагі пазіцыі апанента. У нашым сённяшнім грамадстве плюралізм з'явіуся з перабудовай, галоснасцю, дэмакратызацыяй грамадзянскага жыцця, заваявау права на грамадзянскае існаванне. Але яго суправаджаюць падазронасць, непавага да апанента, жорсткая барацьба за уладу.

Самаарганізацыя, самакіраванне - важная прыкмета грамадскага грамадства, калі на месцах рашаюцца усе пытанні і няма прамога умяшання дзяржауных службау у рашэнне пытанняу і дзейнасці грамадзян. Мясцовае самакіраванне, самаарганізацыя і рашэнне шмат якіх эканамічных, сацыяльных, нацыянальных, дэмаграфічных праблем характэрна для многіх развітых краін, дзе узроуні штатау, муніцыпалітэтау, камун, саветау адбываецца рашэнне усіх мясцовых пытанняу жыцця людзей. У нас мясцовае самакіраванне пакуль незначнае, але паступова развіваецца - селькомы, садаводчыя кааператывы і іншыя.



ТЭМА 13 ПАЛІТЫКА І ЭКАНОМІКА: ПЕРАХОД ДА РЫНКУ І САЦЫЯЛЬНАЯ АБАРОНА НАСЕЛЬНІЦТВА У БЕЛАРУСІ

1. Эканоміка (грэчаскае - oeconomica майстэрства упраулення хатняй гаспадаркай) - гістарычна абумоуленая сукупасць гаспадарчых адносін, эканамічны базіс грамадства. З паняццем "эканоміка" звычайна атаясамліваецца таксама народная гаспадарка, уключаючая як галіну матэрыяльнай вытворчасці, так і нематэрыяльную сферу. Эканоміка - гэта таксама галіна навукі, якая вывучае спецыфіку развіцця эканамічных адносін у асобных галінах народнай гаспадаркі на падставе агульных законау яго развіцця.

2. Эканамічная палітыка - канцэнтрыраванае навукова-абгрунтаванае выражэнне дзейнасці дзяржавы у галіне эканомікі, матэрыяльнай вытворчасці. Эканамічная палітыка прызвана садзейнічаць раскрыццю і мабілізацыі усіх рэсурсау грамадства з мэтай забяспячэння яго аптымальнага функцыяніравання і росквіту.

3. Рынак - гэта абмен, арганізаваны па законах таварнай вытворчасці і абарачэння, сукупнасць адносін таварнага і грашовага абарачэння. Для пераходу да рынку патрэбна: 1. шматлікія формы уласнасці і папершае прыватная уласнасць у мэтах забяспячэння свабоды эканамічных паводзін; 2. рынычная інфраструктура (біржы, камерцыйныя банкі, моцныя законы); 3. свабоднае цэнаутварэнне (у Заходніх краінах яе павелічэнне не дапускаліся больш чым у 2 разы); 4. стварэнне умоу для канкурэнцыі вытворцау, а не спажыуцоу; 5. устойлівыя фінансы і папершае-грошы; 6. развіта уся сістэма рынка (таварау, рабочых рук, капіталау, сыравіны, сродкау вытворчасці; 7. адчыненасць рынка для іншаземных таварау; 8. суб'екты рыначных адносін (прадпрыймальнікі, эканамісты і г.д.); 9. сацыяльная абарона насельніцтва, якая забяспечвала б пражытачны мінімум.

4. Сацыяльная палітыка - гэта такі напрамак палітычнага кірауніцтва грамадствам, які уключае у сябе фарміраванне і рэалізацыю з дапамогай мер курса на павышэнне дабрабыту, культуры, быту класау, нацый і народнасцей, сацыяльных груп, ка-

лектываў, грамадзян, дэмакратызацыю, развіццё сацыяльнай справядлівасці.

Змест сацыяльнай палітыкі - гарманізацыя грамадскіх і асабістых інтарэсаў людзей, сацыяльных груп, класаў, нацый.

Функцыі сацыяльнай палітыкі: функцыя рэгулявання адносін паміж дзяржавай, уладай і народам, сацыяльнымі групамі, нацыямі, дзяржавай і асобай; функцыя сацыяльнай абароны насельніцтва, асабліва бяднейшых, безработных і г.д.; функцыя стварэння ўмоў для нармальнага развіцця чалавека, забяспячэнне яго матэрыяльнага, сацыяльнага і фізічнага дабрабыту; функцыя кансалідацыі, мабілізацыі грамадства і нарэшце функцыя зацвярджэння сацыяльнай справядлівасці.

Сацыяльная абарона насельніцтва - гэта частка сацыяльнай палітыкі, накіраваная на падтрымку малазабяспечаных, бяднейшых слаёў і груп насельніцтва шляхам арганізацыі дзяржаўных выплат, даплат прадпрыемстваў, дапамог людзям розных фондаў і другой матэрыяльнай іх падтрымкі.

Уплыў сацыяльных фактараў на здароўе даволі вялікі. У прыватнасці ад сацыяльных умоў жыцця залежыць 77% захворанняў з 100; у 55 выпадках са 100 сацыяльныя умовы з'яўляюцца прычынай заўчаснай смерці; у 47 выпадках са 100 - прычынай няправільнага развіцця.

Эканамічны крызіс - гэта такое становішча гаспадаркі, якое вызначаецца разбурэннем, альбо глыбокай стагнацыяй важнейшых гаспадарчых ці грамадскіх структур.



## ТЭМА 14. ПАЛІТЫКА І ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ ЭКАЛАГІЧНАЙ БЯСПЕКІ ПАВОДЗІН НАСЕЛЬНІЦТВА І АХОВЫ ЗДАРОЎЯ У БЕЛАРУСІ

Экалогія - паняцце, якое ўжываецца ў двух асноўных значэннях - класічным і мадэрнісцкім. У адпаведнасці з класічным разуменнем экалогія - гэта аддзел біялогіі, вывучаючый узаемадзеянні біясістэм розных узроўняў арганізацыі з навакальным асяродзям. Па мадэрнісцкаму разуменню, экалогія - міждысцыплінарны комплекс ведаў аб праблемах узаемаадносін грамадства і прыроды, абароны навакольнага асяродзя і рэгулявання прыродных рэсурсаў. У другім сэнсе экалогія уключае ў сябе больш як 40 дысцыплін - фізіялагічную экалогію, марфалагічную, эвалюцыйную, радыяцыйную, сацыяльную (і гэтак далей) экалогію.

Экалагічны крызіс - разбурэнне, прычыненне непазбежнай або амаль непазбежнай страты навакольнаму асяроддзю, вызванага драпежнай эксплуатацыяй прыродных рэсурсаў, дасягнуўшае такіх маштабаў, што ператварылася ў пагрозу для здароўя людзей, стала перашкодай для павелічэння спажывецкіх рэсурсаў, роста прамысловасці.

Экалогія і здароўе - знаходзяцца ў цеснай узаемасувязі, Забруджванне прыроды вядзе да:

а) узмацнення прыродных катаклізмаў (ураганаў, бураў, кіслотных дажджоў і г.д.)

б) узросту дэпапуляцый цэлых народаў (напрыклад, эвенкаў, хантаў і інш.)

в) укарачэнню працягу жыцця прыкладна на 10%

г) узрастанню колькасьці захворванняў

д) лякарскай зменлівасці мікраарганізму - узбуджальнікаў захворванняў

ё) патамарфозу (змену характара цячэння і вынікаў многіх захворанняў )

ж) змену іммунналагічнай рэактыўнасці і алергізацыі насельніцтва

з) узросту многіх захворанняў генетычнай абумоўленасці

і) узнікненню новых да сучаснага часу невядомых захворанняў.

Экалагічная палітыка - гэта сістэма дзяржаўных мер і мер прадпрыемстваў, грамадзян, накіраваных на разумнае выкарыстанне навакольнага асяродзя, на яго паляпшэнне, павышэнне якасці. ЭП павінна быць заснавана на прынцыпах планамернасці, непарыўнасці, доўгатэрміновасці і комплекснасці. Мэтамі ЭП з'яўляюцца: фарміраванне такой сістэмы ўзаемаадносін паміж грамадствам, чалавекам і навакольным асяродзем, якая бы спрыяла росту вытворчасці і умацаванню здароўя насельніцтва; захаванне генофонду (у тым ліку і чалавека), відавай і ландшафтнай рознастайнасці дзікай прыроды, ландшафтна-архітэктурнай адроджнасці сельскай і гарадской мясцовасці; забяспячэнне збалансаванасці працэсаў васпраізводства і выкарыстання ўзнаўляемых прыродных рэсурсаў, а таксама разумнае выкарыстанне невазабнаўляемых сродкаў з шырокім уцягненнем у абарот адходаў; біясфернай раўнавагі на лакальным, рэгіянальным і глабальным узроўні; фарміраванне у насельніцтва самастойных правільных поглядаў на месца і роль прыроды ў жыцці чалавека, на яго месца ў прыродзе, на усведамленне ўзаемазалежнасці паміж сацыяльна-эканамічнымі і экалагічнымі працэсамі, паміж чалавекам і сферай яго жыцця.

Напрамкі экалагічнага аздараўлення прадугледжваюць: фарміраванне самаасцераючых паводзін чалавека; "экалагізацыю" існуючай тэхнікі і тэхналогіі вытворчасці; укараненне безадходнай асяродзеаберагаючай тэхнікі і тэхналогіі; удасканаленне сістэмы выяўлення крыніц экалагічнага забруджвання; пашырэнне сістэмы заказнікаў; узмацненне пакаранняў за забруджванне навакольнага асяродзя; абавязковую папярэднюю экалагічную экспертызу будуемых аб'ектаў і гэтак далей.

Праграма "экалогія" Рэспублікі Беларусь прынята 26 марта 1989 г. Яна, у прыватнасці, прадугледжвае да 2000 года: у галіне ачысткі паветра забяспечыць утрыманне цвёрдых частак на 98 - 99%, зменшыць выбрасы на 32%; у галіне захавання чыстаты вады - знізіць яе выкарыстанне і забяспечыць замкнутае водазабяспячэнне прадпрыемстваў да 80% і поўную ачыстку усіх сточных вод; у галіне выкарыстання зямлі - рэкультываць кожную пяцігодку па 50 тыс. га, стварыць лесазахоўныя палосы на 1,4 тыс. га, правесці процізрозійныя мерапрыемствы на плошчы 1 млн. гектараў. Вялікую частку праграмы складаюць мерапрыемствы па экалагічнаму аздараўленню вынікаў Чарнобыльскай катастрофы. Але ў цэлым уся праграма выконваецца нездавальняюча.



7. Ахова здароўя ў Беларусі - уключае ў сябе комплекс дзяржаўных і грамадскіх сацыяльна-эканамічных і медыцынскіх мерапрыемстваў, накіраваных на прадухіленне і лячэнне захворванняў, аздараўленне навакольнага асяроддзя, паляпшэнне умоў жыцця і працы насельніцтва, захоўванне і умацаванне здароўя членаў грамадства ў мэтах змяншэння і ліквідацыі захворванняў, скарачэння інваліднасці і змяншэння смяротнасці, гарманічная развіццё фізічных і духоўных сіл чалавека, дасягненне высокага ўзроўню працаздольнасці і даўгалецця. Сістэма аховы здароўя ў Беларусі ўключае лячэбна-прафілактычную і санітарна-курортную дапамогу, санітарна-курортную дапамогу, санітарна-процізпідэміялагічнае абслугоўванне, санітарную асвету і аптэчную справу. Зараз у рэспубліцы працуе 41,4 тыс. урачоў; 116,8 тыс. работнікаў сярэдняга мед. персанала; коечны фонд складае 138,3 тыс. коек. У разліку на 10 тыс. насельніцтва ў Беларусі прыходзіцца 40,6 урачоў і 114,4 работнікаў сярэдняга медыцынскага персанала, 135,4 коек. Зараз у Беларусі распрацоўваецца новая концэпцыя аховы здароўя.

## Тэма I5. Палітыка і этнас. Узнікненне і фарміраванне беларускай нацыі і дзяржаўнасці

Этнас – (грэч. "народ"). Тэрмін, блізкі да паняцця народ. Часцей азначае насельніцтва якой-небудзь тэрыторыі. Падчас ім абазначаюць некалькі народау, блізкіх па свайму паходжанню. Напрыклад, славянскі этнас.

Народнасць. Устойлівая агульнасць людзей, якая склалася гістарычна у працэсе разлажэння племянных адносін на аснове агульнасці, мовы, культуры, звычак і традыцый. Яна можа мець сваю тэрыторыю, свае эканамічныя адносіны. Народнасць з'яуляецца папярэднікам нацыі.

Нацыя – устойлівая, гістарычна склаушаяся агульнасць людзей, для якой характэрны свая мова, тэрыторыя, сумеснае эканамічнае жыццё, культура і свой асабісты характар.

Нацыянальныя адносіны – гэта узаемаадносіны людзей з розных этнічных асяроддзяу (нацый, народнасцяу, этнічных груп) пры уздзеянні на іх эканамічных або палітычных фактарау.

Нацыянальны характар – устойлівыя прыкметы паводзін людзей, характэрныя для прадстаунікоу якога-небудзь этнаса. Яны фармуюцца на аснове гістарычна склаушыхся звычак, традыцый, жыццёвых умоу.

Нацыянальная псіхалогія – гэта асаблівасці успрыняцця і адлюстравання акружаючай рэальнасці, характэрныя для прадстаунікоу адпаведнай нацыі. У асноуным праяуляецца праз нацыянальны характар.

Нацыянальная культура – створаныя нацыяй матэрыяльныя і духоуныя каштоунасці, адлюстроуваючыя нацыянальны характар, нацыянальную гісторыю.

Нацыянальная свядомасць – азначае усведамленне, разуменне прадстаунікамі нацыі эканамічнага і палітычнага становішча сваёй нацыі, яе жыццёвых інтарэсау. Мерай свядомасці з'яуляецца актыунасць асобы у рэалізацыі нацыянальных інтарэсау.

Нацыянальнае пытанне – канкрэтна-гістарычная праблема, узнікаючая пры з'яуленні і развіцці нацыянальных адносін, заснаваных на нераунапрауі і прыцясненні. Гэта пытанне аб вызваленні і напрамках вольнага суверэннага развіцця нацыі.



Нацыянальная палітыка – палітыка дзяржавы у сферы нацыянальных адносін. Яна уключае задачы рэгуляцыі нацыянальных адносін, выхаванне у грамадзян талерантнасці, стварэнне умоу для усебаковага развіцця нацый.

Нацыяналізм – палітыка, ідэалогія і псіхалогія супрацьпастаулення адной нацыі другой, распальванне нацыянальнага разладу і нянавісці. У яго аснове ляжыць канцэпцыя нацыянальнай выключнасці, якая з'яуляецца падставай для імкнення падпарадкаваць сваёй нацыі другія нацыі.

Шавінізм – крайняя, ваяунічая форма праяулення нацыяналізму.

Нацыянальны рух – палітычная альбо ваенная актыунасць нацыі у барацьбе за самавызначэнне і рэалізацыю нацыянальных інтарэсау. Асабліва шырокі размах яна набывае у перыяд развіцця капіталістычных адносін.

Унітарная дзяржава (ад лац. – адзінства). Існаванне цэнтралізаванай улады ва усёй краіне, з адзінай канстытуцыяй, адзінай уладай і г.д. Гэта адзінае дзяржаунае утварэнне.

Федэрацыя (ад лац. – аб'яднанне, саюз). Гэта форма дзяржаунага аб'яднання адносна самастойных дзяржау у адну дзяржаву, паунамоцтвы якіх рэгуліруюцца агульнай канстытуцыяй. Яе прызнанне і дзеянне абавязкова на усёй тэрыторыі аб'яднання.

Канфедэрацыя (ад лац. звязаць дагаворам). Саюз дзяржау, якія захоуваюць незалежнасць і аб'ядноуваюць свае намаганні для выканання канкрэтных мэт: абароны, знешняй палітыкі, эканамічных здабыткау і г.д. Прававой асновай аб'яднання з'яуляецца не канстытуцыя, а саюзны дагавор. Палажэнні гэтага дагавора не заусёды і часта не для усіх абавязковы.

Беларуская народнасць стала фарміравацца у асяроддзі Вялікага княства Літоускага з XIУ па XУII стагоддзі са старажытнаславянскіх плямёнау (крывічау, дрыгавічау і радзімічау), а таксама праз асіміляцыю часткі балцкіх плямёнау (літвы, ятвягау). Вядучую ролю у працэсе этнагенэзу адыграла багатая культурная спадчына Полацкага, Тураускага, Смаленскага і іншых княствау. Асабліва важкім фактарам была беларуская мова, стаушая дзяржаунай мовай Вялікага княства Літоускага. Ёю карысталіся больш чым 400 гадоу.

Беларуская нацыя утварылася з беларускай народнасці на працягу XIX і пачатку XX стагоддзяў. Працэс фарміравання беларускай нацыі адбываўся ў вельмі складаных умовах: з захаду актыўна праводзілася палітыка паланізацыі (апалячвання) беларусаў, а з усходу - русіфікацыя. Беларускае насельніцтва жыло пераважна ў сельскай мясцовасці, а ў гарадах і мястэчках - пераважна яўрэйскі, расейскі і польскі этнас.

Беларуская дзяржаўнасць мае глыбокія карэнні ў гісторыі. Першыя крокі былі зроблены ў IX-XII стагоддзях, калі продкі беларусаў стварылі моцныя княствы: Полацкае, Тураўскае, Смаленскае і інш. Беларуская дзяржаўнасць найбольш поўна праявілася ў час існавання Вял. кн.Літоўскага з ХШ па ХУІ стагоддзі, так як вядучую ролю ў ім іграла беларуская народнасць. Кіруючыя колы дзяржавы ў асноўным складаліся з феадалаў-беларусаў, беларуская мова была дзяржаўнай. Засілле польскай культуры і мовы, паланізацыя (апалячванне беларусаў пачалося пасля Люблінскай (1569 г.) і Брэсцкай (1596 г.) уніяй, якія аб'ядналі Вялікае княства Літоўскае з каралеўствам Польскім у адну федэратыўную дзяржаву - "Рэч Паспалітую", што значна абмяжавала былую дзяржаўнасць. Пасля трох раздзелаў Польшчы (1772, 1793, 1795 г.г.) Беларусь канчаткова страціла сваю дзяржаўнасць і на яе землях пачалася ўжо русіфікацыя насельніцтва. У 1840 годзе беларуская мова была забаронена, а тэрыторыя Беларусі стала называцца "Северо-Западный край".

Напярэдадні і пасля Кастрычніцкай 1917 г. рэвалюцыі склаліся умовы для адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Рада Усебеларускага кангрэсу, створаная з прадстаўнікоў нацыянальных партый, арганізацый і груп абвясціла 25 сакавіка 1918 года Беларусь незалежнай народнай рэспублікай (БНР), але яе дзейнасць была нядоўгай.

1 студзеня 1919 года ў Смаленску была абвешчана Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка (БССР), якая праіснавала больш 70 гадоў. Не гледзячы на русіфікацыю, таталітарны рэжым цэнтральнай улады, Беларусь даволі паспяхова развівала сваю гаспадарку і культуру, захавала свае асноўныя нацыянальныя каштоўнасці. Абвяшчэнне рэспублікі Беларусь у жніўні 1991 г. як незалежнай суверэннай дзяржавы адчыняе новыя магчымасці перад беларускім народам, які зноў набыў сваю рэальную дзяржаўнасць.



## ТЭМА 16 ДЭМАГРАФІЧНАЯ ПАЛІТЫКА. МЕДЫЦЫНСКІЯ АСПЕКТЫ

Дэмаграфія (ад грэч. - народ, - апісанне). Тэрмін уведзены французскім вучоным XIX стагоддзя Гійярам.

Дэмаграфія - навука, вывучаючая грамадска-эканамічныя заканамернасці змены народанасельніцтва, яго узнаўлення, колькасці, складу, размеркавання на тэрыторыі.

Народанасельніцтва - сукупнасць людзей, пражываючых адначасова на якой-небудзь асобнай тэрыторыі.

Прадмет дэмаграфіі - узнаўленне насельніцтва шляхам нараджальнасці, смяротнасці, працягласць жыцця.

3 тыпы узнаўлення - звужанае,
простае,
пашыранае.

Дэмаграфічная палітыка - мэтанакіраванае уздзейнічанне дзяржавы на дэмаграфічныя працэсы (альбо з мэтай іх змянення, альбо зберажэння маючых тэндэнцый).

Мерапрыемствы дэмаграфічнай палітыкі:

1) эканамічныя мерапрыемствы (грашовая дапамога на дзяцей, улік колькасці дзяцей пры падаткаабкладанні, пры налічэнні пенсіі маці, ільготы для бацькоў пры прызыве на вайсковую службу, пры аплаце за дашкольныя установы, грашовая дапамога цяжарным жанчынам і пры родах і г.д.).

2) адміністрацыйна-юрыдычныя мерапрыемствы (заканадаўчыя акты, забараняючыя або дазваляючыя аборты у некаторых дзяржавах, вызначэнне законам мінімальнага шлюбнага ўзросту, аб ахове сям'і дзяржавай, вызначэнне маёмасных правоў маці і дзяцей пры скасаванні шлюбу і г.д.).

3) сацыяльна-псіхалагічныя мерапрыемствы

Яны накіраваны на фарміраванне дэмаграфічнага ідэала, які задавальняе інтарэсы грамадства і сям'і. Выхоўваючыя мерапрыемствы:

- у сферы нараджальнасці - фарміраванне сярэднедзетнай сям'і (3-4 дзіцяці).

- у сферы сямейна-шлюбных адносін - умацаванне сям'і, клопаты аб ёй з боку дзяржавы, асабліва маладой, студэнцкай сям'і.

Тэарэтычныя асновы дэмаграфічнай палітыкі

I) Дэмаграфічная палітыка - гэта частка сацыяльна-эканамічнай палітыкі. Яе вынікі залежаць ад павышэння народнага дабрабыту.

2) Умова паспяховай дэмаграфічнай палітыкі - доўгатэрміновасць.

3) Яе комплекснасць (павінна ахапіць усе стораны дэмаграфічнай палітыкі - нараджэнне, працяжальнасць жыцця, смяротнасць, колькасць разводаў).

4) Улічваць інтарэсы чалавека, асобы і грамадства ў пытаннях узнаўлення насельніцтва, маладой сям'і, у тым ліку студэнцкай.

5) Рэгулярна інфармаваць насельніцтва аб дэмаграфічных працэсах у краіне, у міры.

6) Весці прапаганду сярод насельніцтва здаровага ладу жыцця і г.д.

Медыцынскія аспекты дэмаграфічнай палітыкі:

Агульныя праблемы медыцыны і дэмаграфіі:

- тып і характар паталогіі;
- захворванні;
- працягласць жыцця;
- даўгалецце, інваліднасць;
- смяротнасць (па розных прычынах);

Гэтымі праблемамі займаецца не толькі медыцынская статыстыка, але і дэмаграфія і сацыялогія.

Асноўныя фактары, уплываючыя на дэмаграфічную палітыку з пункту гледжання медыцыны:

I) павышэнне патэнцыяла здароўя і працаздольнасці насельніцтва залежыць і ад якасці лячэбна-прафілактычнай работы;
2) комплекс праблем па ахове мацярынства і дзяцінства;
3) прапаганда урачамі здаровага ладу жыцця;
4) санітарная культура.



ТЭМА I7. Палітыка і культура. Адраджэнне нацыянальнай культуры і мовы беларускага народа

Культура (ад лац. вырабляць, апрацоўваць). Гістарычна акрэслены ўзровень развіцця грамадства, творчых сіл і вартасцей чалавека. Ён выражаецца ў спосабах арганізацыі жыцця і дзейнасці людзей, а таксама ў створаных імі матэрыяльных і духоўных каштоўнасцях. Іншымі словамі, культура - гэта сацыяльная з'ява, апрацаваная чалавекам частка рэчаіснасці, вынік яго працы і дзейнасці.

Матэрыяльная культура уключае ў сябе прадметныя вынікі дзейнасці людзей (машыны, пабудовы, кнігі, мастацкія вырабы і г.д.), а таксама набыты вытворчы вопыт (прафесія, прыкладныя веды, уменне).

Духоўная культура ахоплівае сферу духоўнага жыцця чалавека, здабыткі ў гэтай сферы (веды, навуку, літаратуру і мастацтва) узровень інтэлекту, рэлігію, маральныя і эстэтычныя каштоўнасці). Духоўная культура мае сваю структуру, свае рысы і прынцыпы. Інтэлігенцыя - галоўная сіла культуры, навукі, адукацыі, выхавання.

Адраджэнне нацыянальнай культуры і мовы беларускага народа пачалося яшчэ ў пачатку XX стагоддзя на хвалях узрастання рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў былой Расейскай Імперыі. Значную ролю ў гэтай справе адыграла ў перыяд I906-I9I5 гадоў газета "Наша Ніва", якая спрыяла росквіту таленту Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш. Добры размах яно набыло ў 20-х гадах у БССР і атрымала нават назву "беларусізацыі". Але ў пачатку 30-х гадоў яна была звернута, многія інтэлігенты рэпрэсаваны. У далейшым культурнае жыццё рэспублікі было вельмі супярэчлівым. З аднаго боку страшэнныя заідэалагаванасць усёй культуры і нарастанне русіфікацыі насельніцтва, а з другой - значнае культурнае будаўніцтва, абавязковая сярэдняя адукацыя для моладзі і інш.

Абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь, рашэнне аб дзяржаўнасці беларускай мовы спрыяюць нарастанню працэса адраджэння беларускай культуры. Важную ролю ў гэтым працэсе ужо іграюць Закон аб мовах і Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў, прынятыя Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, стварэнне ў лістападзе I99I года самастойнага Беларускага фонду культуры і Таварыства беларускай мовы. У верасні

1991 года набыў статут самастойнай установы пры Акадэміі навук Беларусі Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, які аб'ядноўвае спецыялістаў розных галін навукі. Цэнтр займаецца даследваннем гісторыі і тэорыі беларускай культуры. Ён праводзіць шырокую асветніцка-прапагандысцкую дзейнасць, ажыццяўляе сувязь з беларусамі, параскіданымі на розных кутках свету, праводзіць пошукі за мяжой каштоўнасцей беларускай культуры.

## ТЭМА 18. Знешняя палітыка і міжнародныя адносіны. Беларусь у сістэме міждзяржаўных сувязяў.

Міжнародныя адносіны - гэта розныя ўзаемаадносіны дзяржаў, альбо ўдзельнікаў міжнароднага жыцця, калі іх актыўнасць пры рэалізацыі сваіх інтарэсаў выходзіць за межы дзяржавы. Удзельнікаў міжнародных адносін падзяляюць на суверэнныя суб'екты (дзяржавы) і несуверэнныя суб'екты (арганізацыі, карпарацыі, саюзы).

Знешняя палітыка - важнейшая частка міжнародных адносін, якая рэалізуецца кіраўніцтвам дзяржавы і яе органамі ў мэтах дасягнення накіраванага ўплыву на другіх удзельнікаў міжнародных адносін. Знешняя палітыка з'яўляецца працягам і дапаўненнем палітыкі ўнутранай. Яна мае абаронную, інфармацыйна-прадстаўнічую (забяспечвае кантакты з другімі дзяржавамі, збірае інфармацыю), ініцыятыўна-арганізацыйную функцыю (дзейнасць па стварэнню добрапрыемных, спрыяючых абставін для дзейнасці сваёй дзяржавы).

Мэты знешняй палітыкі: забяспечыць нацыянальную бяспеку; спрыяць эканамічнаму і палітычнаму развіццю дзяржавы; умацоўваць яе міжнародны аўтарытэт і пазіцыі. Для рэалізацыі гэтых мэт праз знешнюю палітыку выкарыстоўваюцца розныя сродкі і спосабы, якія можна аб'яднаць у групы:

1. Інфармацыйна-прапагандысцкія сродкі.
2. Палітычныя сродкі. Перш за ўсё гэта дыпламатыя, пісьмы, ноты, мемарандумы, сустрэчы кіраўнікоў і г.д.
3. Эканамічныя сродкі звычайна выкарыстоўваюцца эканамічна-моцнымі дзяржавамі, альбо тыя, у каго багатая сыравінай тэрыторыя.
4. Ваеннымі сродкамі знешняй палітыкі лічацца ваенная моц дзяржавы, яе армія, ядзерная зброя.

Экстрэмісцкая палітыка (ад лац. выхад за межы). Гэта праяўленне крайніх мер у палітычных дзеяннях, здольнасць на авантуры з прымяненнем ваенная сілы.

Вайна - узброеная барацьба паміж дзяржавамі, групамі дзяржаў, грамадскімі класамі, нацыямі і этнічнымі групамі. Яна ўзні-

кае як працяг палітыкі не звычайнымі, а другімі, гвалтоўнымі сродкамі. Войны бываюць справядлівыя і несправядлівыя. Для ацэнкі справядлівасці вайны неабходна ведаць якую палітыку праводзіла дзяржава да вайны і якія мэты ў гэтай палітыцы былі галоўнымі.

Мір. Процілегласць становішча вайны. Гэта таксама палітыка, але толькі не гвалтоўнымі, без зброі сродкамі. Мір, як і вайна, бывае справядлівы і несправядлівы, але гэта азначаецца тэрмінамі: "пазітыўны мір" і "негатыўны мір".

Негатыўны мір складаецца з немірнай структуры і трымаецца на роўнавазе страху. Гэты мір характарызуецца гонкай узбраення, балансіраваннем на грані вайны. Пазітыўны мір заснаваны на мірнай, не ваеннай структуры. Яна азначае давер і добрасуседства, улік узаемных інтарэсаў, эканамічныя і культурныя ўзаемаадносіны.

Паліцэнтрызм - адсутнасць адзінага цэнтра, якому неабходна было бы падпарадкоўвацца. Кожны дзеяч міжнародных зносін сам сабе гаспадар.

Глабальныя праблемы - праблемы ўсеагульныя, ахватываючыя ўвесь свет, закранаючыя інтарэсы ўсяго чалавецтва. Гэта захоўванне міру на зямлі , абарона акружаючага асяроддзя, пазбаўленне чалавецтва ад небяспечных хвароб і г.д.

Рэспубліка Беларусь у сістэме міжнародных сувязей. Не гледзячы на абмежаваны суверэнітэт былой БССР, яна мела даволі значныя сувязі з міжнароднымі дзяржавамі і арганізацыямі. Беларуская ССР у 1945 годзе ў ліку 50 дзяржаў мтала адным з членаў-заснавальнікаў - Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і удзельнічала ў выпрацоўцы і зацвярджэнні статута ААН, а на перыяд 1974-75 гадоў была выбрана непастаянным членам Савета Бяспекі. Пад многімі рашэннямі ААН па ўмацаванню міра і міжнароднай бяспекі стаіць подпіс і прадстаўніка Беларусі. Беларусь - член шэрагу міжнародных спецыялізаваных устаноў ААН (па пытаннях адукацыі, навукі і культуры - ЮНЭСКА, міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі - МАГАТЭ і інш.).

Прадукцыя прамысловасці Беларусі прадавалася больш чым у 100 замежных краінах, у тым ліку ў прамыслова развітых. Пасля 25 жніўня 1991 года, калі была абвешчана поўная дзяржаўная незалежнасць, Рэспубліка Беларусь атрымала новыя магчымасці для



пашырэння міжнародных сувязей. 2 красавіка 1991 года Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь была абвешчана заява аб знешнепалітычнай дзейнасці, якая будзе кіравацца прынцыпамі Статута ААН і Дэкларацыяй правоў чалавека. Рэспубліка Беларусь жадае уключацца ў якасці раўнапраўнага члена ў агульнаеўрапейскі працэс, усталяваць дыпламатычныя адносіны з другімі краінамі. Ужо створаны дыпламатычныя структуры з Польшай, ФРГ, ЗША, Францыяй і іншымі краінамі. На пачатак 1992 года падпісаны важныя пагадненні аб супрацоўніцтве з Расейскай Федэрацыяй, Украінай, Казахстанам, Літвой, Малдовай і інш.

